PL ISSN 0546—1960
Nr INDEKSU 366714
№ ІНДЭКСА Ў КАТАЛОГУ „САЮЗДРУКУ“ 36911

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 16 (1823) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 21 КРАСАВІКА 1991 г. ЦАНА 800 зл. (50 кап.)

## мой апошні пленум

Мушу прызнацца, што пісаць пра пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення БГКТ, якое адбылося 17 сакавіка г.г., даводзіцца мне з пачуццём вялікай прыкрасці. Рэдактар В. Луба, даўшы справаздачу з пленума, тактоўна пастараўся пазбегчы гэткага пачуцця, каб, магчыма, не вярэдзіць і так развярэджаных беларускіх душаў. Я стаўлю сабе задачу чорнарабочага, скажам, на дрыгве або твані, які капае рыдлёўкаю — смурод стаецца маім удзелам.

Меліярацыя на беларускім арэале дае наогул марныя вынікі (прыгадайма тут беларускае Палессе), але й без яе дарэмна спадзявацца значнага плёну на ўбагнелых узмежках.

Пасля выступлення старшыні ГП БГКТ Аляксандра Баршчэўскага і прыняцця заявы ў падтрымку праекта закону аб дачыненнях дзяржавы і Праваслаўнай царквы, які мае разглядацца ў Сейме, трэцім пунктам пасяджэння была справаздача старшыні Рэвізійнай камісіі БГКТ Уладзіміра Юзвюка. Матэрыялу для аналізу назбіралася шмат, бо апошняе пасяджэнне ГП адбылося блізу паўтара года назад. За той час, калі Прэзідыум фактычна узурпаваў сабе паўнамоцтвы Галоўнага праўлення, наша частка свету перавярнулася дагары нагамі, ды і ў беларускім руху на Беласточчыне адбыліся такія змены, што некаторыя аптымісты пачалі гаварыць аб беларускім грамадска-культурным адраджэнні. Ніхто, аднак, не згадваў аб адраджэнні Беларускага грамадска-культурнага таварыства, бо такога не адбылося. Даклад У. Юзвюка гэта пацвердзіў: паступовы параліч прэзідыяльнага органа дайшоў да такой стадыі, што не толькі не выконваліся яго пастановы, але й пачалі ўзнікаць сумненні, ці былі наогул нейкія пастановы, бо апошнія пасяджэнні Прэзідыума ніхто не пратакуляваў. Так што і на паперы аніякага следу не засталося. Характарыстыка Прэзідыума была ў пэўнай ступені новым элементам у выступленні У. Юзвюка (я ў свой час чуў іх некалькі), далей пайшло звычнае літанне: абсалютны брак кантакту з вясковымі гурткамі, заняпад навучання беларускай мовы, развал песенных калектываў, і так далей, і гэтаму падобнае. Коратка кажучы, арганізацыйнае дэгенерацтва. Спадар Юзвюк запатрабаваў персанальных зменаў у Таварыстве. На нескрываные здзіўленне бальшыні сяброў ГП, замест адстаўкі Прэзідыума, старшыня Рэвізійнай камісіі прапанаваў звольніць з пасадаў штатных працаўнікоў БГКТ: сакратара ГП Віктара Стахвюка і намесніка старшыні ГП Аляксандра Іваноўскага.

Старшыня ГП (і Прэзідыума) адкрыў дыскусію. Гаварыце пра ўсё, што хочаце. На шмат-

(Працяг на стар. 6)

## Мары мастачкі з Бярозаўкі

Сустрэча сёлетняй вясною ў Беластоку не была нашай першай сустрэчай. Галіна Сідарэвіч, мастачка са шклозавода „Нёман“, які знаходзіцца ў Бярозаўцы — цяпер ужо горадзе, — Лідскага раёна, Гродзенскай вобласці, упершыню прыехала ў Польшчу два гады таму назад. Праходзілі якраз Дні Гродзенскай культуры на Беласточчыне, і Галя сярод іншых вырабаў шклозавода „Нёман“ выстаўляла свае працы ў бібліятэцы „Арсенала“. Вельмі вылучаліся яны сярод іншых як па сваёй задуме, так і спосабам выканання. У творах, выкананых са шкла, было столькі невераготнай экспрэсіі, што ад некаторых з іх немагчыма было адарвацца. Былі яны аднача́сна перапоўнены меланхоліяй, сумам па нечым няўлоўным, любоўю да роднай прыроды. І загалоўкі прац такія ж паэтычныя: „Дзьмухаўцы“, „Кветкі“ (былі тады ірысы), „Святыя курганы“, „Цішыня“...

Вось менавіта. Як можна перадаць цішыню ў шкле? А ў Галі яна выйшла даслоўна такая, што аж у вушах звініць! Яна патрапіла дасканала перадаць стан цішыні ў прыродзе на світанку; сем аркападобных шкляных пласцін ствараюць цэлы пейзаж: ніводная травінка не варушыцца, дзесьці ў далечыні пасуцца коні, узняліся ў неба першыя абуджаныя птушкі, а празрыста-блакітны колер надае ўсёй кампазіцыі пачуццё ранішніх туманаў...

Галіна Сідарэвіч нарадзілася на Палессі, у вёсцы Бобрык (там і рэчка такая, кажа, у Прыпяць упадае), Пінскага раёна, Брэсцкай вобласці. Пасля васьмі класаў мясцовай беларускай дзесяцігодкі яна паступіла ў Мінскае мастацкае вучылішча. Два гады адпрацавала ў Рэспубліканскім цэнтры па навуковай арганізацыі працы, дзе займалася прамысловымі інтэр'ерамі і абсталяваннем. Пасля быў Беларускі Дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, факультэт дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, кафедра „мастацкае шкло“. Аднак, пасля заканчэння інстытута працы па спецыяльнасці не знайшла, бо на Беларусі ёсць усяго два шклозаводы, дзе патрабуюцца мастакі. Іэноў давялося дзяўчыне працаваць з прамысловымі інтэр'ерамі.



Жаданне працаваць са шклом прымусіла яе шукаць шчасця па-за межамі роднага краю. Першае знаёмства са шклом адбылося на Першамайскім шклозаводзе ў Смаленскай вобласці. Толькі ў 1983 годзе вызвалілася месца мастака на Беларусі, у Бярозаўцы. Тады гэта было яшчэ мястэчка, але быў там шклозавод „Нёман“ — адно са старэйшых прадпрыемстваў Беларусі, якое якраз святкавала сваё 100-годдзе. На святкаванне прыязджаў нават з Бельгіі ўнук былога гаспадара, немца Столле.

Прадукцыя гэтага завода заўсёды славілася багатай палітрай колераў. Тут выпрацоўваюць посуд з бясколернага і каляровага шкла, крышталь, сувеніры, а таксама вітражнае шкло. Вырабы з Нёмана экспартуюцца ў 14 краін свету: ЗША, Канаду, Германію, Грэцыю, Італію і інш.

(Працяг на стар. 5)

## Што і чаму?

**У адказ на пастулаты, каб падаваць да шырокага публічнага ведама важнейшыя факты з беларускага палітычнага руху ў нас, будзем перыядычна друкаваць іх кароткі пераказ. Просім актывістаў руху дасылаць у „Ніву“ паведамленні.**

**Рэдакцыя**

Вядомы наш мастак і дзеяч Лёнік Тарасэвіч як кіраўнік Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў Гарадку выступіў з ініцыятываю утварэння Рады нацыянальных меншасцяў Польшчы. (Шырэй аб гэтым пісалася ў „Ніве“ ад 14 красавіка г.г.).

Рэалізуецца і даўно патрэбная інтэграцыя беларускіх арганізацыяў. Юрыст Беларускага дэмакратычнага аб'яднання і член яго Краёвай управы Пятро Юшчук выпрацаваў праект статута будучай Рады беларускіх арганізацыяў, які, пасля папраўак і дапаўненняў, прыняты кіраўнічымі органамі м. ін. Беларускага грамадска-культурнага таварыства, Беларускага аб'яднання студэнтаў, Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа“. Далучаюцца да Рады — Камітэт будовы Беларускага музея ў Гайнаўцы і Праваслаўнае брацтва. Ліквідуецца такім чынам раз'яднанасць высілкаў паасобных арганізацыяў, ствараецца платформа для каардынацыі іх дзейнасці, каб не да-

(Працяг на стар. 4)

## На мяжы

— 35 —

Тое, як чарнавідства ў малюнку ўласнага жыцця небяспечна для нас, беларусаў, пераканаўся я канчаткова нядаўна. Адзін з маіх старых знаёмых, які на Беласточчыне ніколі не быў, прачытаўшы артыкул „Wschodnia ściana płaczu“, так расчуліўся няшчасным лёсам беларусаў, што запрапанаваў мне некалькі старых камплектаў пасцельнай бялізны і свае старыя кашулі ды порткі як дапамогу для „niszczonych twoich ziomków“. І другі прыклад. Польскі паэт з беларусаў, які мае сваякоў у БССР (дарэчы гэта і мой сваяк, які выехаў у БССР у час рэпатрыяцыі ў 1946 годзе), звярнуўся да мяне, каб я даў яму новы адрас нашага мінскага сваяка, бо ён хоча паслаць яму некалькі кілаграмаў мукі і цукру. Гэты польскі паэт з беларусаў піша мне ў кароткім лісце наступнае: „Tyle naczytałem się o półgłodzie i radiacji w BSRR, iż postanawiam ratować Wołodzię i posłać mu parę kilogramów mąki i cukru“.

Будучы ў Мінску, я сказаў Валодзі і яго жонцы аб намеры іх сваяка ў Польшчы. Пасля гэтага жонка Валодзі завяла мяне на кухню і адкрыла шырокую і высокую шафу. Шафа была біткам набіта мукой, крупой і цукрам. Зразумела, што маем тут дачыненне з ненармальнай сітуацыяй, бо вядома, што тады, калі ўсяго ёсць удосталь у магазінах, людзі не купляюць паўцэнтнера мукі, крупы і цукру. Аднак гэта ўжо іншая справа. Цікавіць мяне выключна той аспект, што ў выніку сканцэнтраваных фарбаў, якімі малюем сваё ўласнае жыццё, а пасля пачынаюць тым жа самым маляваць наша жыццё іншыя, ствараем міф сваёй адвечнай пакрыўджанасці, бедаў, няшчасцяў, праследаванняў. І такім чынам узнікае постаць народа-бедалагі, народа-ахвяры, народа-жабрака. А вядома, што жабраку многа спачуваюць, але ніхто жабрака не паважае. І таму, шаноўныя сябры, да чорных фарбаў, якімі так ахвотна паслугоўваемся ў малюнку беларускага жыцця, дадайма і светлых фарбаў. Ці гэта абазначае, што трэба забыць аб крыўдах і здзеках? Не, абавязак усіх пакаленняў заключаецца ў тым, каб гаварыць праўду аб мінулым і сучасным, у тым ліку і праўду найбольш горкую. Аднак, нельга гаварыць аб сваім народзе толькі так, каб чужыя трактавалі нас як няшчаснікаў, якіх можна ашчасліваць паўпарванай пасцельнай бялізнай і зношанымі кашулямі ды порткамі.

# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Горды чалавек не павінен зводзіць сябе да жабрачай мізэрнай постаці. Датычыць гэта не толькі чалавека як асобы, але і нацыі. На жаль, мы, беларусы, робім гэта вельмі часта. Цяжка ўявіць сабе, як многа ідзе ад нас на Захад пісем, у якіх людзі пішуць аб сваім крайнім убостве і рознымі намёкамі ды сродкамі заахвочваюць сваіх амерыканскіх ці англійскіх адрасатаў дасылаць ім дапамогу.

Адзін з выхадцаў з Беласточчыны, які жыве ў Англіі, сказаў мне, што нейкаму свайму знаёмаму ў Беластоку выслаў пасылку. Вельмі быў ён здзіўлены, калі атрымаў ад беластаччаніна ліст, у якім ён падзякаваў яму і без найменшай сарамлівасці прапанаваў, каб ангельскі беларус прысылаў яму пастаянна пасылкі з англійскай вопраткай і прадуктамі, а ён адкрые ў Беластоку магазінчык і будзе англійскія тавары прадаваць з добрым даходам і карысцю. Пасля гэтага і гаворыць мне англійскі беларус: „Перастаў я яму пасылаць не толькі пасылкі, але і лісты“. І не здзіўляюся!

І так буду набліжацца да канца. Браты беларусы, не распешчваў нас гістарычны лёс, не песціць нас і сучаснае. Але ж праўдай ёсць, што даем сабе рады ў жыцці не горш, чым палякі, украінцы ці рускія, і жывем наогул не горш, чым прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей, якія трапілі ў аднолькавыя з намі абставіны. І таму не трэба прыбядняцца і не трэба звальваць усю віну на чужых. Прычыны няўдач і паражэнняў шукайма галоўным чынам у сабе. Незалежна ад таго, што скажам і напішам, суседзяў не зменім. У такой сітуацыі стараймася змяніць сябе. А змяніць, гэта значыць адкінуць варыянт беларуса-ахвяры і прыняць варыянт беларуса-барацьбіта, які здольны кахаць, верыць, працаваць і змагацца, які здольны жыць годна і ганарова.

**Алесь Барскі**

## З мінулага тыдня

**Прэзідэнц Лех Валэнса і прэм'ер-міністр Ян Кшыштоф Бялецкі** нанеслі афіцыйны візіт у Францыю, у час якога быў падпісаны трактат аб дружбе і салідарнасці паміж абедзвюма краінамі. Лічыцца ён важным крокам у справе адбудовы гаспадарчай пазіцыі Польшчы.

**У Мінску праходзілі забастоўкі.** Спачатку мелі яны чыста эканамічны характар, а потым ператварыліся ў палітычны страйк. У сераду, 10 красавіка, каля 100 тысяч дэманстрантаў правялі мітынг на плошчы Леніна ля Дома Урада. Яны заклікалі да адстаўкі прэзідэнта Гарбачова. Да страйку далучыліся рабочыя 79 прадпрыемстваў Мінска. Іх падтрымалі некаторыя заводы і фабрыкі ў іншых раёнах рэспублікі. Рабочы клас Беларусі, абураны рэзкім павышэннем цэнаў, выступіў за ўвядзенне кампенсацыйных надбавак да зарплат, настойваючы на адстаўцы кіраўніцтва рэспублікі. Уступкі, на якія пайшоў апарат, былі сустрэты рабочымі ў штыкі. Сталіца Беларусі, ахопленая страйкам, была практычна поўнасцю паралізавана. Працавалі толькі жыццёва важныя для існавання горада службы. Аднымі з лідэраў забастоўкі былі рабочыя флагмана індустрыі рэспублікі — Мінскага аўтамабільнага завода. Страйк перакінуўся ў такія прамысловыя цэнтры як горад Жодзіна, дзе знаходзіцца завод „БелАЗ“. У чацвер, 11 красавіка, лідэры страйку перагаласавалі за часовае спыненне яго, пасля таго, як кіраўнікі Беларусі згадзіліся абмеркаваць іх патрабаванні. На шэрагу мінскіх прадпрыемстваў другая змена пачалася паводле графіка, а тысячы дэманстрантаў, якія сабраліся былі на цэнтральнай плошчы Мінска пачалі яе пакідаць. На вуліцах, каля плошчы раней паявіліся бронетранспарцёры з войскам МУС. Старшыня мінскага страйкавага камітэта **Георгій Мухін** заявіў, што пастанова прыпыніць забастоўку была прынята пасля перамоваў з намеснікам старшыні Вярхоўнага Савета БССР **Станіславам Шушкевічам** і першым намеснікам старшыні Савета Міністраў **Пілутай.** Паводле Мухіна галоўная перамога забастоўшчыкаў заключаецца ў тым, што людзі ўсвядомілі сабе немагчымасць жыць па старому. Страйкавы камітэт падкрэсліў, што забастоўка можа быць спынена і можа пачацца зноў у любы час.

**У Беластоку страйкавалі пажарнікі.** Беластоцкі пратэстацыйны камітэт правёў акцыю падтрымкі патрабаванняў сяброў з іншых ваяводстваў. Пажарнікі дамагаюцца лепшых заробкаў, больш мадэрнага абсталявання. Пратэст заключаўся ў тым, што на будынках і аўтамашынах былі павешаны сімвалы прафсаюза „Салідарнасць“. У час пратэсту пажарнікі не спынялі сваю службу.

### ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ ЧЫТАЧОЎ У БЕЛАРУСІ

**Галоўнае праўленне БГКТ паведамляе, што распаўсюджваннем „Беларускага календара на 1991 год“ у Беларусі займаецца Гродзенскае абласное аддзяленне Савецкага фонду культуры, г. Гродна, вул. Ажэшка, 49, тэл. 452627.**

## ТЭЛЕФАКСАМ З МІНСКА

### РАЗВІТВАЮЦЦА З ПАРТБІЛЕТАМ

Здаецца, крызіс ахапіў і найбольш кансерватыўную і моцную частку КПСС — Кампартыю Беларусі. Так за мінулы год з яе радоў дабравольна выйшла больш як 63 тысячы камуністаў, а ўступіла толькі 7 тысяч (усяго ж КПБ налічвае зараз менш 600 тысяч чалавек).

Найбольш значныя страты панесла Мінская гарадская партарганізацыя. Сёння з партыяй развітваюцца вядомыя вучоныя, кіраўнікі муніцыпальных Саветаў, простыя люд.

Асноўная прычына — поўны крах палітыкі, якую на працягу сямі дзесяцігоддзяў праводзіць КПСС.

Дарэчы, аб тым, што Кампартыя Беларусі сур'ёзна захварэла, гаворыць і яшчэ адна лічба: у 1990 годзе 1.315 камуністаў — значна больш, чым у 1989-ым, асуджана за розныя злачынствы.

### АДРАДЖЭННЕ ГРАМАДЫ

У Мінску 28 лютага адбыўся ўстаноўчы з'езд Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады. У 20-х гадах ля яе вытокаў сталі вядомыя грамадскія, палітычныя і культурныя дзеячы Беларусі: А. Луцкевіч, А. Пашкевіч, В. Ластоўскі, З. Жылуновіч, А. Чарвякоў.

Галоўныя мэты Грамады — абарона грамадзянскіх і сацыяльных свабод чалавека і адраджэнне нацыянальнай самасвядомасці. Эканамічная крэда — перадача зямлі сялянам, прыярытэтнае развіццё сельскай гаспадаркі. У будучым БСДГ, на думку заснавальнікаў, павінна стаць часткай міжнароднага сацыял-дэмакратычнага руху і атрымаць статут члена Сацыялістычнага інтэрнацыянала, што дасць магчымасць беларускім сацыял-дэмакратам актыўна ўдзельнічаць у будаўніцтве еўрапейскага дома.

Дарэчы, пасля таго, як Вярхоўны Савет БССР адмяніў 6 артыкул Канстытуцыі рэспублікі, у якім была замацавана манаполія Кампартыі на ўладу, у Беларусі зарэгістравана 6 розных партый і больш 20 грамадскіх арганізацый.

### ПАМАЖЫ НАМ БОГ!

У Мінску, у пяцідзесяці метрах ад дома Урада, поўным ходам ідзе рэстаўрацыя касцёла святой Алены, які некалькі дзесяцігоддзяў належаў рэспубліканскаму аб'яднанню кінематаграфістаў. Чакаючы прыезду сёлета Папы Рымскага на асвячэнне касцёла, рамонт яго робяць і веруючыя, і гарадскія ўлады — факт, які яшчэ пяць год таму назад не мог нават уявіць сабе найсмялейшы фантазёр!

Цярпімасць да рэлігіі — адна са станоўчых прыкмет перабудовы. Зараз у малых мястэчках, вёсках, у буйных гарадах Беларусі веруючым вернута 150 храмаў, у некаторых школах выкладаецца гісторыя рэлігіі, людзі могуць свабодна хадзіць у цэрквы і касцёлы. У рэспубліцы зарэгістравана больш 370 рэлігійных суполак.

Бось толькі богаслужэнні ў цэрквах і касцёлах вядуцца ў пераважнай большасці на рускай і польскай мовах.

**Вацлаў Багдановіч,**
Мінск

# Два паэты аднае бацькаўшчыны

У наш шалёны час цяжка знайсці для сябе хвілю цішыні ды спакою дзеля задуменнасці над чалавекам і светам. Вось трымаю ў руках творы паэтаў, Славаміра Адамовіча і Уладзіміра Гайдука. Першы з іх праслаў свае „Кальварыйскія клёны" яшчэ ў блакітна-залатую восень і ажно з карэла-фінскага Петразаводска, а другі — і не ведаў у сваім прыбелавежскім хутары, што з'явіўся ў Беластоку ягоны „Блакітны вырай". А адзін пра аднаго, мабыць, першы раз і пачуюць цяпер, хоць так родныя яны адзін другому. Вельмі блізкія духам ды светаадчуваннем.

Ёсць ва Уладзіміра Гайдука строфы на класічным узроўні:

*Ляглі маршчыны ўжо на твары.*
*Мая ты мілая Ганулька,*
*Не салавей на свеце царыць*
*І не пакутліва зязюлька.*

І як бы дапісвае яму далёкі незнаёмы Славамір Адамовіч:

*І прысніцца ралля,*
*Белы конь на атаве.*

Сказаць, што абодва яны лірыкі — гэта нічога не сказаць пра асаблівасць іхнай творчасці. Кожны век мае ўласных апісальнікаў, што не толькі інтуітыўна разумее юначы Адамовіч: „Мы на белых палотнах нанова гісторыю пішам, Наступаючы смела на ўласны спалоханы цень". І ўсё роўна што ўторыць яму Гайдук, узвышаючы першнаперш постаць хлебароба, ад якога і пайшла ў людзі Маладая Беларусь: „Калышуцца белыя штандары кашуль..." І адразу бачым сенакосныя разлогі ды векавечнасць бацькаўшчыны.

Наша народная бяда, з якой натужліва вылазім, абтрасаемся, бы ад ганебных блох, гэта якраз і той страх, прышчэплены нам чужакамі, і самапаніжэнне, якім заразілі наш сялянскі матачнік, як каростаю якою... Мы, беларусы, не столькі нават можам, колькі проста мусім пазбавіцца накінутай паршывасці. Таму беларуская літаратура ў параўнанні з іншымі насычана, на маё разуменне, палітычнасцю. Чаму? Бо яна — у выніку гістарычнага лёсу народа — абцяжана тым, чым у нармальных умовах не павінна быць прыдушаным мастацтва, артыстычнасць. Паэту недзе ва ўладкаванай Еўропе здасца дзівакаватым тое, што, прыкладам кажучы, вядомы беларускі аўтар адначасна функцыянуе і ў ролі лідэра нацыі. Бо еўрапейцу няўцямна будзе, што магчымае існаванне беларускай дзяржаўнасці, якая знішчае ўсенька беларускае, і што ёсць такі народ, які ненавідзіць сам сябе ды марыць аб сваёй прапажы на вякі вечныя. Стацца ў нас пісьменнікам — трэба моцнага характару, каб не апусціцца ў адчай, роспач. Адамовіч па-хрысціянску спакойна глядзіць на чалавечыя слабасці, пранікнуўшыся мудрасцю тысячагоддзяў:

*Я — там, дзе прадзедаў абшар,*
*Дзе здрадай высланы парогі,*
*Дзе сёння мне плююць у твар,*
*Каб заўтра цалаваць у ногі.*

Гэтак жа немітуслівы ды ўсёразумеючы і Гайдук, якому не тлумачыць, што „жыццё кароткае, як песня". Ён, увесь акунуўшыся ў жыццё, няспешна падказвае чытачу, што няйначай, як: „Толькі крылам верыць у дарозе". І адклікаючыся да адвечнай у цывілізацыі пагарды да ціхіх паэтаў, насмешак над імі, заклікае быць дальнебачным ветраком, тым жа штандарам бунтарным, і смела ісці на распяцце! Непазбежна страшная цана; заклік зусім нерытарычны, калі не забываць пра тое, што нас, беларусаў, ужо ўпаткала і чаго нам спадзявацца ад будучыні, калі не пераступім цераз гнільны ў нас сіндром мужыка і пана.

Наглядаецца і выразная розніца паміж Адамовічам і Гайдуком у трактоўцы сваёй высокай місіі. Славамір больш абстрактны, а Уладзімір — канкрэтны, што абумоўлена, вядома, непадобнымі шляхамі перажытых імі гадоў. У беларускага паэта з Карэліі праблема адраджэння бацькаўшчыны выходзіць на біблейскае пытанне ачалавечання чалавека, за што пайшоў на рымскі крыж Ісус Хрыстос. У Гайдука з прыбеларускай Беласточчыны тая ж праблема пастаўлена, так сказаць, практычней: пакуль не падымецца з каленяў селянін, датуль не выпрастаецца і беларус.

З двух канцоў па-за Беларусі ідэя, аднак, адна. І гэта галоўнае. А разважанні пра іх умельства слова і вобразнасць верша я пакідаю ўдумліваму чытачу.

**Сакрат Яновіч**

# ШУКАЮ ДАПАМОГІ

Як ужо паведаміла „Ніва" ад 31 сакавіка г.г., нядаўна была створана Камісія па справах рэформы беларускага школьніцтва на Беласточчыне. Мне выпаў гонар узначаліць калегію для апрацавання праграмы навучання і падручніка па геаграфіі для пачатковых школ і ліцэяў. Польская праграма навучання будзе ўзбагачана інфармацыямі пра беларускую нацыянальную меншасць у Польшчы, яе этнічную тэрыторыю на Беласточчыне, пра Беларусь і нашу эміграцыю на Захадзе.

Калі з доступам да навуковых крыніц пра Беластоцкі край няма ніякіх праблем, то матэрыялы на іншыя беларускія тэмы па зразумелых прычынах у нас даволі фрагментарныя і састарэлыя. Патрабуем падручнікаў па геаграфіі Беларусі для ўсіх класаў сярэдняй школы, навуковых, папулярна-навуковых, турыстычных і дыдактычных распрацовак, школьных дапаможнікаў. Неабходны хоць адзін атлас БССР, новы статыстычны гадавік, тэматычныя карты. Прыдаліся б таксама альбомы і здымкі.

Не чакаючы больш афіцыйных захадаў, я як старшыня рэдакцыйнай калегіі сардэчна прашу дапамогі ад асветных улад, навуковых арганізацый, культурных таварыстваў, а таксама зусім прыватных асоб з Беларусі і іншых краін свету. Усе матэрыялы, калі ласка, шліце на адрас школы, у якой працую, або на мой хатні:

*Jerzy Bajena*
*Szkoła Podstawowa Nr 3*
*ul. Księcia J. Poniatowskiego 9*
*17-100 Bielsk Podlaski*

або

*ul. Ogrodowa 13 m. 39*
*17-100 Bielsk Podlaski*

Матэрыяламі будзе карыстацца рэдакцыйная калегія, вучні маёй, самай вялікай на Беласточчыне беларускай школы, а таксама вучні сяброў па прафесіі. Будзе гэта дапамога дзеля дабра і будучыні беларусаў у Польшчы.

Вось планаваныя тэмы геаграфічных распрацовак (без беластоцкай тэматыкі):

1. Геаграфічнае становішча, велічыня і адміністрацыйны падзел Беларусі.
2. Геалагічная будова, карысныя выкапні і рэльеф.
3. Клімат.
4. Унутраныя воды.
5. Глебы.
6. Расліннасць і жывёльны свет.
7. Ахова прыроды.
8. Экалагічныя праблемы пасля чарнобыльскай аварыі.
9. Насельніцтва.
10. Прамысловасць.
11. Сельская гаспадарка.
12. Транспарт.
13. Вобласць і гарады.
14. Выбраныя краявіды, напрыклад: Палеская нізіна, Навагрудскае ўзвышша, Беларускае Паазер'е і іншыя маляўнічыя рэгіёны і мясціны.
15. Беларуская эміграцыя.

✲

Карыстаючыся нагодай, хачу таксама паведаміць, што шукаю чалавека, які мог бы выдаць мне дэбютанцкі паэтычны зборнік, складзены з больш-менш 50 выбраных вершаў. Ад 1973 года з'яўляюся членам Літаратурнага аб'яднання „Белавежа". На літстаронках „Нівы", у альманахах і беларускіх календарах апублікаваў я каля 150 вершаў. Выдаць індывідуальны томік паэзіі дагэтуль мне не пашанцавала. „Белавежа" некалькі месяцаў таму назад сталася юрыдычна самастойнай арганізацыяй, а з Міністэрства культуры атрымала грошы на выдавецкую дзейнасць. Апошнім часам выходзяць літаратурныя кніжкі пад „агульнай"(?) рэдакцыяй адной асобы — старшыні „Белавежы" Яна Чыквіна. У маім выпадку здарылася, аднак, так, што я не згадзіўся на мікразборнік з карыкатурна абкроеным зместам...

**Юрка Баена**

# Яшчэ аб „Беларускім календары"

Прачытаўшы даведку Аляксандра Максімюка аб „Беларускім календары" на гэты год, якую змясціла „Ніва" ад 24.03. 91 г., я не змог устрымацца ад некалькіх заўваг. Аўтар даведкі піша аб цяжкасцях, з якімі давялося змагацца рэдактару календара Яну Максімюку, прапануе адыйсці ад традыцыйнай кампазіцыі, называе тэматычныя часткі, ставіць імглісты закід, што больш паловы матэрыялаў мае публіцыстычны характар і гэта ўсё. Прыемна, калі браты падтрымоўваюць адзін другога. Але чытачам трэба крыху больш інфармацыі аб яго змесце.

На 176 старонках календара я налічыў 26 (сёмая частка!) не задрукаваных старонак. Чаму? Выданне пачынаецца дванаццацю табліцамі каляндарыума. Гэта ўжо наша традыцыя.

Першую частку „У БГКТ і не толькі" адкрывае „найважнейшая" інфармацыя аб утварэнні зародка палітычнай партыі беларусаў у Польшчы „Грамады" (пасля назва закінута). Далей у гэтай жа частцы амаль усё аб Беларускім дэмакратычным аб'яднанні, крыху аб літаб'яднанні „Белавежа" і БАСе, аматарскім руху БГКТ, адзін радочак друку прысвечаны бэгэкатоўскаму Купаллю ў Белавежы, пяць радочкаў адкрыццю Беларускага музея ў Гайнаўцы і можа яшчэ некалькі радочкаў іншым мерапрыемствам. Ну што ж, справаздач з працы Таварыства няма, „Ніва" на бягуча іх не адзначае. Адкуль мог атрымаць рэдактар?

Чарговую частку календара „Свойскае" запачаткаваў добры рэпартаж Міры Лукшы „На ўскраіне пушчы". Але надаецца ён да літаратурных матэрыялаў. Затым змешчаны мой, вымушаны Прэзідыумам ГП у апошняй хвіліне, артыкул аб Беларускім музеі ў Гайнаўцы і вельмі цікава, сугестыўна апрацаваная этнаграфічная даведка „Забытыя лапці" Яна Морданя.

Частка „Размоўнае" складаецца з трох інтэрв'ю рэдактара: з айцом Рыгорам Сасной, шырока вядомым нашым чытачам папулярызатарам гісторыі праваслаўя. Добрая гэта задума таму, што мала ў нас святароў, якія так глыбока разумеюць сутнасць сваёй душпастырскай працы ў беларускім асяроддзі. Затым размова з Сакратам Яновічам, якая магла б быць змешчана ў літаратурнай частцы таму, што яна не ўсіх цікавіць. Ад трэцяй размовы з сакратарам ГП Віктарам Стахвюком я чакаў нейкай інфармацыі аб 35-годдзі БГКТ. Выйшлі мары, прароцтвы, антыкамуністычныя, антысалідарніцкія і нават антыбэгэкатоўскія акцэнты. Некалькі разоў падкрэсліў „развал камунізму" ў Польшчы, гэта значыць развал таго, чаго ніколі не было, даў павучэнне ўсім палякам, як маюць да нас адносіцца. З кім тады прыдзецца рэалізаваць мары, калі старых дзеячоў таварыства ўжо адпіхнулі, а маладых прыцягнуць да дзейнасці яшчэ не змаглі?

Чарговых сорак старонак календара „Палітычнае" паходзіць з імпарту ў рамках не-несупрацоўніцтва БГКТ з Беларускім народным фронтам „Адраджэнне" з БССР. Перадрукаваны з месячніка „Беларусь" (1990 г.) артыкул Зянона Пазняка „Шлях да свабоды" нагадвае мне прамовы палітрукоў 1939—1941 гадоў, якія прыехалі арганізаваць савецкую ўладу на Беласточчыне. Яны грамілі ўсіх за ўладу, а З. Пазняк — супраць

**(Прасяг на стар. 4)**

# Яшчэ аб „Беларускім календары"

(Працяг са стар. 3)

улады і таму з такімі людзьмі дыскутаваць немагчыма. Супрацьлеглы бок добрых з'яў не выказвае.

Чарговае апрацаванне Алеся Галькевіча гэта ўжо дэмагогія, сучасная гебельшчына. Ставіць Чарнобыльскую катастрофу ў залежнасць ад рэвалюцыі 1917 года, ад пабудовы сацыялістычнага ладу ў краіне (аўтар называе яго камунізмам), а нават правядзення ў 1898 годзе ў Мінску першага з'езда партыі проста дурна. Ці гібель карабля „Тытанік" гэта злачынства капіталізму? Ці пажар нафтаздабывальнай скважыны ў Іране можна звязаць з гамеінізмам? Сам аўтар дапускаецца дыктатарства: „толькі тады", „толькі незалежнасць" і гэтак далей. Чытаючы такія матэрыялы, адчуваецца непакой і смутак, што гісторыя нічаму нас не навучыла, нават дыскусіі з праціўнікам.

Абодва артыкулы змешчаны рэдактарам у „Беларускім календары" без патрэбы, са шкодаю для БГКТ. Беларускае таварыства не супрацьдзейнічае БНФ, але не можа ад яго чакаць дапамогі. На маю думку, нашым чытачам хапіла б аднаго найбольш пераканаўчага і разважнага артыкула аб Чарнобыльскай трагедыі Лявона Тарасенкі „Беларуская Хірасіма".

Наступную частку „Гістарычнае" складаюць тры артыкулы: вядомага нашаму чытачу працаўніка АН БССР Уладзіміра Казберука аб Францішку Скарыне, Антона Мірановіча „Царкоўныя брацтвы на Беларусі" і Хрысціны Гамулка „Дзейнасць Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры (1926—1937)". Усе яны цікавыя як для моладзі, так і для старэйшых чытачоў.

Аб літаратурнай частцы выказвацца не хачу. Трэба толькі з прыемнасцю адзначыць цікавы артыкул прафесара Ньюйоркскага гарадскога універсітэта Томаса Бэрда „Нататкі аб Беларускай літаратуры на эміграцыі".

У цэлым каляндар мала займальны. Папера якасна дрэнная, графіка — таксама, вокладка абсалютна белага колеру з незразумелай для мяне сімволікай. Калі не зактывізуецца ў яго кальпартажы БДА, ізноў астанецца ён у Таварыстве на складзе.

Незалежна, аднак, ад усяго, над канцэпцыяй календара трэба дыскутаваць. Трэба рэактываваць рэдакцыйную калегію, якая хоць крыху элімінавала б хібы гэтай універсальнай ва ўмовах БГКТ публікацыі.

**У. Юзвюк**



# Свойскія малюнкі



*Вёска Чорная-Сярэдняя, гміна Гродзіск.*
*Мал. У. Петрука.*

# БЕЛАРУСКАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ПЕСНЯ

Агляд беларускай дзіцячай песні на Беласточчыне мае многагадовыя традыцыі. На дзіцячай эстраднай сцэне выраслі маладыя зоркі: Адам Жарначук з Рыбал, Марта Драль з Васількава, ды яшчэ цалкам маленькія Юльяна Карзуновіч і Аркадзік Якімюк з Чыжоў. На жаль, іх талент мог развівацца толькі ад агляду да агляду. У мінулым годзе і сёлета ўпершыню яны мелі магчымасць выступіць па-за аглядам падчас навагодніх гульняў у ГП БГКТ. Для развіцця іх таленту патрэбны перш за ўсё інструктары і магчымасць прэзентацыі перад публікай. Таму ў гэтым годзе агляд беларускай песні будзе мець іншы характар. Сяргей Лукашук, арганізатар цэнтральнага агляду, вырашыў змяніць яго форму. Бельскі дом культуры, якім ён кіруе, будзе гаспадаром двухдзённага агляду песні. 11 мая 1991 г. у суботу адбудзецца конкурс, а ў нядзелю 12 мая — канцэрт лаўрэатаў. Пад час канцэрта выступяць госці з Беларусі — дзіцячы калектыў пад кірункам Валянціны Сярых.

Цэнтральны агляд будзе папярэджаны раённымі, якія адбудуцца ў такіх тэрмінах:

Гайнаўка (ГДК) — 20 красавіка 1991 г., гадз. 10.00,

Бельск-Падляшскі (БДК) — — 25.04.91 г., гадз. 10.00,

Беласток (ГП БГКТ) — 5.05.91 г., гадз. 10.00.

Канцэрт лаўрэатаў будзе паўтораны ў Беластоцкай філармоніі 2 чэрвеня 1991 г. Разам са спевакамі з Беласточчыны выступяць маладыя „Лявоны" з Воранава, Гродзенскай вобласці.

Найлепшы калектыў з Беласточчыны, або нашай дыяспары, выступіць на фестывалі ў Мінску 16-20 мая 91 г.

**Сакратар ГП БГКТ**
**Віктар Стахвюк**

# Oświadczenie

Rada Miejska i Zarząd Miasta Bielska Podlaskiego zbulwersowani są faktem wielokrotnego zbeszczeszczenia pomnika przy Komendzie Rejonowej Policji. Eskalacja tych działań uwieńczona została w nocy z 20 na 21 marca 1991 r. kradzieżą umieszczonej na pomniku tablicy pamiątkowej.

Czyn ten wzbudził szeroki oddźwięk w społeczeństwie.

Godzi on w mieszkańców miasta i rejonu, bez względu na narodowość i wyznanie.

Tablica ta została ufundowana przez społeczeństwo i wyświęcona przez duchownych obu wyznań w trakcie nabożeństwa ekumenicznego w dniu 11 listopada 1990 r. Sądzimy, że treść tej tablicy: „Policjantom, którzy oddali swe życie za wolność, niepodległość i bezpieczeństwo Ojczyzny, zamordowanym w obozach niemieckich i łagrach sowieckich oraz rozstrzelanym w Katyniu" — nie powinna budzić sprzeciwu żadnych grup społecznych i politycznych a tym bardziej samych mieszkańców miasta. Od samego początku tablica była przedmiotem różnego rodzaju profanacji a to, co stało się ostatnio, jest szczytem nieodpowiedzialności. Czyn ten godzi we wszystko co nam drogie i obraża świętą pamięć pomordowanych obrońców Ojczyzny.

Żądamy od Prokuratury nasilenia działań zmierzających do ujawnienia i ukarania winnych. Mieszkańcy naszego miasta muszą mieć pewność, że żyją w spokojnym, zgodnym społeczeństwie. Nie będziemy tolerować działań, mających na celu skłócenie nas wszystkich. To musi się skończyć.

Liczymy na to, że sprawcy kradzieży zostaną wykryci i ukarani.
**Bielsk Podlaski, 1991-03-25**

*Заяву гэту змяшчаем па просьбе старшыні Гарадской рады ў Бельску-Падляшскім лек. вет. Багдана Заваліха.*

# Што і чаму?

(Працяг са стар. 1)

пусціць да марнатраўства маральных ды матэрыяльных сродкаў у дасягненні істотных для беларусаў мэтаў. Рада гарантуе дэмакратызм рашэнняў.

Польскія партыі ў Беластоку прапануюць Беларускаму дэмакратычнаму аб'яднанню перамовы наконт супрацоўніцтва ў вырашэнні праблемаў беларускага насельніцтва. З найбольш грунтоўнымі пастулатамі ў гэтым напрамку выступае Дэмакратычная унія, перш за ўсё ў эканамічнай галіне. Ад яе імя канферэнцыйную групу ўзначальвае віцэ-прэзідэнт Беластока інж. Вайцех Галоўня, а прадстаўнікамі Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў перамовах з Дэмакратычнай уніяй ёсць: Славамір Іванюк як старшыня Тэрытарыяльнай рады нашага аб'яднання ў Бельску, Ян Максімюк як член Галоўнай рады ды Віктар Стахвюк як кардынатар Краёвай управы і д-р Яўген Мірановіч, намеснік старшыні Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, які кіруе дэбатамі з беларускага боку. Узаемныя гэтыя кантакты перайшлі ўжо ад агульнай стадыі да дэталёвых распрацовак, у сувязі з чым далейшыя перамовы будуць адбывацца паралельна ў двух мерытарычных гуртах экспертаў: гаспадарчым, які з боку Аб'яднання ўтвораць Віктар Стахвюк, і грамадска-палітычным, пад эгідай д-ра Яўгена Мірановіча.

Галоўная рада Беларускага дэмакратычнага аб'яднання разважае магчымасці прыняць падобныя прапановы сталых перамоваў з Паразуменнем „Цэнтр", Польскай сацыялістычнай партыяй і Сацыял-дэмакратыяй Польскай Рэчыпаспалітай, а таксама супрацоўніцтва з гданьскім віцэ-ваяводам Юзэфам Бажышкоўскім, які прадстаўляе ўрадавую камісію па справах рэформы адміністрацыйнага падзелу, ліквідацыі ваяводстваў і рэгіяналізацыі Польшчы (канцэпцыя асобнага рэгіёна Падляшша).

**Сакрат Яновіч**




**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.**

— 38 —

У часе паходу ген. Балаховіча на Мінск як эсэры, так і савінкоўцы пачалі дэмаралізаваць яго войска. Правoдзілі яны агітацыю сярод салдат і афіцэраў добраахвотнай арміі, склікаючы мітынгі, на якіх прамаўлялі ў камуністычным духу, дамагаючыся ўвядзення выбарчага права, імкнучыся ўсімі сіламі да падрыву вайсковай дысцыпліны. Дзякуючы ўплывам названых агітатараў, другая дывізія добраахвотнай арміі стала зусім няздольнай да змагання і пры першым наступленні Чырвонай арміі часткова пайшла ў палон, часткова пачала адступаць у кірунку польскай мяжы. Тое ж было ў штабе ген. Балаховіча. Эсэры і савінкоўцы ўвялі хаос, дзеянні і работу намерана дэзарганізавалі і г.д. Загады ген. Балаховіча не выконваліся, а часта штаб даваў супярэчлівыя загады. У дадзеным выпадку ген. Балаховіч праявіў сваю непадрыхтаванасць да такой высокай функцыі і не патрапіў накінуць падначаленым свой аўтарытэт, у выніку чаго наступіла парушэнне вайсковай дысцыпліны. Прымяненне ген. Балаховічам цялесных пакаранняў у адносінах да салдат і афіцэраў не толькі не падняло дысцыпліны, але вытварыла банду людзей, якая лічылася з настроямі свайго „бацькі“ і не была здольнай да пастаянных баявых дзеянняў. Дык паход аказаўся няўдачным і ген. Балаховіч быў прымушаны вярнуцца ў Польшчу са сваімі падраздзяленнямі, дзе паўстанцы былі абяззброеныя і інтэрнаваныя. Адыход падраздзяленняў ген. Балаховіча ў Польшчу выклікаў упадак Слуцкага паўстання, што якраз і было мэтай эсэраў.

З мацнейшым супрацівам сутыкнуліся савецкія агітатары пры спробе ліквідацыі „Зялёнага дуба“. Агітатары былі часткова дэмаскаваны, часткова выгнаны, часткова забітыя. У канцы, аднак, савінкоўцам, так званаму „Саюзу абароны айчыны і свабоды“ ўдалося ў палове 1921 года ліквідаваць штаб арганізацыі „Зялёны дуб“ у Лунінцы, што дазволіла Заўрыду і Русаку правесці сур'ёзную антыпольскую акцыю ў ваколіцах гэтага горада.

Апрача ўжо названых арганізацый, нейкага аналіза заслугоўвае „Краёвая связь“. Мэтай яе было аб'яднанне ўсіх грамадскіх плыняў: польскіх, літоўскіх і беларускіх, якія былі прыхільныя Польшчы, аб'яднанне ў адну вялікую фармацыю, якая давяла б да спалучэння земляў былога Вялікага княства Літоўскага і далучэння яго да Рэчыпаспалітай. Найважнейшую ролю адыгралі тут В. Пупко, Аляксюк і В. Адамовіч (сын), які карыстаўся псеўданімам — Язэп Дзяргач. Арганізацыя гэта фінансавалася польскім урадам, аднак не дала сур'ёзных вынікаў. Крыху апярэджваючы натуральны ход падзей, для паўнейшай інфармацыі аб паланафільскіх беларускіх арганізацыях, трэба ўспомніць аб арганізацыі „Беларускія беспартыйныя актывісты“ (ББА), якая ўзнікла ў сакавіку 1922 г.

Старшынёй яе быў В. Міткевіч, сакратаром Шурпа; апрача іх супрацоўнічалі з ёю сын і бацька Адамовічы. Арганізацыя гэта прапанавала мінімум беларускіх патрэб — старалася мець уплыў на беларускае сялянства, раздаючы будаўнічыя матэрыялы, дапамогі на загаспадаранне і т.п. Рэзалюцыя аб уключэнні Віленшчыны ў склад Польшчы была прынята, між іншым, дзякуючы ББА. Пасля далучэння Віленшчыны да Польшчы аж да распараджэння ў справе выбараў у Варшаўскі Сейм, арганізацыя гэта дзейнічала ў паразуменні з польскімі лакальнымі ўладамі для загарантавання дабрабыту крэсавага насельніцтва, для ідэі набліжэння да Польшчы, дапамагала ў барацьбе з беларуска-літоўскім бандытызмам.

*(Працяг будзе)*

# Мары мастачкі з Бярозаўкі

**(Працяг са стар. 1)**

Галя была шчаслівая. Праўда, абавязкам мастака было праектаванне новых відаў шкловырабаў, але была магчымасць займацца і мастацкім шклом, прымаць удзел у выставах, як кажуць, рабіць нешта для душы.

Шкло было вынайдзена чатыры тысячагоддзі таму назад. Здавалася б, нічога больш не прыдумаеш, бо ўсё ўжо вядома аб гэтым чароўным матэрыяле. Але кожны творца імкнецца стварыць нешта сваё. Хацела і Галя знайсці свой твар. Пачала эксперыментаваць над спалучэннем са шклом самых розных матэрыялаў, якія наогул не спалучаюцца. У тоўшчу гарачага шкла заплаўляла металы, шклотканіну, каменні, розныя фарбавальнікі. У выніку атрымалася цікавая тэхніка — як бы малюнак у шкле.

— Налівае майстар на металічную пліту гарачае шкло, — расказвае Галя, — а тэмпература не менш 700 градусаў, гараць не толькі пальчаткі, але і пазногці, калі сыплеш пасля фарбу. Усё ж трэба рабіць хутка, бо вельмі хутка шкло застывае. І за кожным разам паўстае нешта новае. Гэта так, як імправізацыя ў джазе — ніколі не паўтараецца тое самае.

„Цішыня“ была менавіта першай працай, якая паўстала ў выніку Галіных эксперыментаў. На Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі СССР яна была ўзнагароджана срэбным медалём за вынаходніцтва мастацка-тэхналагічных сродкаў, а сваю аўтарскую тэхніку Галіна абараніла на Усесаюзным мастацка-тэхналагічным савеце ў Маскве. Пасля выставы праца была набыта Дзяржаўным мастацкім музеем БССР.

На гэту тэму — тэму роднага беларускага краю, яе, Галінага, Палесся мастачка стварыла серыю прац пад супольным загалоўкам „Палессе“ („Цішыня“, „Палессе“, „Курганы“). У тэхніцы гарачага фарбавання выкананы таксама працы „Эдэм“, „Яблыкі“, „Мора“ і інш.

Галіна Сідарэвіч вельмі любіць беларускі фальклор. Беларускаму народнаму лялечнаму тэатру прысвечана адна з яе першых прац „Батлейка“, дзе кампазіцыю ствараюць каляднікі са звяздой, чортам, спевакамі „шчодрага вечара“. Усё гэта „шэсце“ выканана ў яркіх колерах шкла ў спалучэнні з дрэвам і ільном.

Напэўна няма сёння мастака на Беларусі, якога б не кранула чарнобыльская трагедыя. Гэтай тэме прысвечана адна з апошніх Галіных прац „Блок“. Як пратэст супроць забруджання нашага асяроддзя гучыць кампазіцыя „Індустрыяльны пейзаж“: кобальтавыя, амаль чорныя трубы пагрозліва зіяюць на ўсе бакі сваімі раструбамі...

— Люблю я яшчэ слухаць музыку, асабліва класічную, — гаворыць мне Галя, — а таксама літаратуру — замежную і беларускую, паэзію. Некалі сама пісала вершыкі. Адпачынак люблю праводзіць у археалагічных экспедыцыях (удзельнічала ў раскопах Ольвіі). І яшчэ захапляюся Караткевічам, — прызнаецца мастачка, — якога адкрыла я для сябе ў 1969 годзе, калі яшчэ не было „моды“ на яго. „Каласы пад сярпом тваім“ падабаюцца мне за вельмі прыгожую і багатую, як палітра жывапісца, беларускую мову. Часта перачытваю зборнік ранняй паэзіі У. Караткевіча „Мая Іліяда“. Такая прыгажосць!

Калі Галя была ў Беластоку на Днях Гродзенскай культуры, яе запрасілі ўзяць удзел у міжнароднай выставе мастацтва „Інтэрарт-89“, якая адбылася ў канцы лістапада 1989 года ў Познані. Там была закуплена ў ФРГ яе праца „Курганы“. Галя надта ўдзячна „Штуцы польскай“, якая, дарэчы, ужо не існуе, бо на гэтай выстаўцы ўбачыла шмат цікавых твораў. І хацелася б ёй, каб супрацоўніцтва паміж саюзамі мастакоў Гродна і Беластока працягвалася надалей.

У сакавіку гэтага года Галіна Сідарэвіч прыехала на запрашэнне Беластоцкага саюза мастакоў. Для галерэі „Арт“ яна прывезла свае працы з серыі „Курганоў“, „Полымя“ і інш. І вось мы ізноў сустрэліся! І сёння Галя кажа, што яна не можа, не мае права спыніцца на шкле. Не з яе неспакойнай натурай! Ужо і масляных фарбаў накупіла, хоча заняцца ўсур'ёз жывапісам.

Галіна Сідарэвіч — член Саюза мастакоў СССР з 1988 года. Яе працы бяруць удзел не толькі ў рэспубліканскіх і ўсесаюзных, але і ў міжнародных выставах. Былі яны ўжо ў Чэхаславакіі — горад Брно, у Італіі — г. Бары, у Аўстрыі — г. Вена, у Грэцыі — г. Салонікі, у Індыі — г. Бамбей, у Югаславіі — г. Загрэб і ў іншых краінах.

Яе працы знаходзяцца ў розных музеях. Многа іх у Музеі Палесся ў горадзе Пінску, дзе ахвотна купляюць працы ад землякоў; у Дзяржаўным мастацкім музеі БССР; у Маскве; некалькі прац знаходзіцца ў прыватных калекцыях у Грэцыі, Італіі, Германіі, Польшчы.

Галя марыць, каб яшчэ ў гэтай, яе, тэхніцы, зрабіць вітраж, і „каб быў ён неардынарны, арыгінальны; а тэму хачу ўзяць надта беларускую, родную — Палессе, Прыпяць...“.

І яшчэ яна марыць, працуючы самотнымі вечарамі ў сваім невялічкім пакойчыку, дзе няма месца на экспазіцыю яе прац, але можна ў вольны час іх прыдумваць, рэалізаваць на паперы, уяўляць, — каб яе творчыя ўвасабленні расплыліся па шырокім свеце. А тое, што яе там не будзе, — гэта няпраўда. Яна з імі ўсюды — у музеях, на выстаўках, у прыватных дамах. Далікатная, няўлоўная, ледзь відочная, яна крычыць аб сабе так, як крычыць яе нямая „Цішыня“ — першая і самая любімая праца мастачкі.

**Ада Чачуга**




**ПРА ВЁСКУ ЗАБЫЛІ**

Відаць, пра вёску забылі ўсе. Тут другія справы на галаве, важнейшыя. А яды ў нас пакуль хапае, дык навошта пра вёску памятаць. Заграніца яшчэ корміць. Там збытак вялікі і прыгожае ўсё, а ўпакоўка аж зіхаціць. А яда здаровая? Каго гэта цікавіць? Даўней гаварылі: „Не свеціць хата вугламі, а толькі пірагамі“. Цяпер наадварот. Толькі ці на доўга хопіць? Барані Божа, каб запозна не было. Заграніца не прышле, з вёскі не пацягнеш, тады ўсім труба. Апамятайцеся, калі яшчэ не позна, пакуль вёска дыхае яшчэ! Праўду кажуць: „Бедная вёска — галодны горад“. За камуны, як кажуць, аб вёсцы памяталі, многа гаварылі, абяцалі. Цяпер і абяцаць перасталі. Праўду гаворачы, цяпер таксама пра вёску прыпомнілі перад выбарамі, даражэнькія вы мае! А па выбарах далей маўчанне!

Ой божанькі, божанькі, нарабілася цяпер, нарабілася. Добра хаця, што нашы папярэднікі не бачаць. Што на гэта сказаў бы Міцкевіч? Ён, бедны, хацеў адной пацехі, каб кніжкі трапілі пад вясковыя стрэхі. А тут не толькі кніжкі, а нават і газеты з-пад стрэх пазабіралі. Напэўна думаюць, што мужыкі чытаць пазабывалі, або на чытанне часу не маюць, бо шукаюць месца, дзе прадукты прадаць. Вось бачыце і добра зрабілі. Няхай будзе. Добра, што забралі ім клубы, газеты і кніжкі. Гэта помста за тое, што з камунай барацьбы не вялі. Цяпер на гатовенькае за кошт другіх чакаюць.

О не! Не туды дарога. Захацелі адразу па-дэмакратычнаму жыць і на чужым возіку ў Еўропу заехаць? Не, даражэнькія! Да лепшага жыцця пачакай яшчэ вёска! Тваё сонца яшчэ не ўзышло. А калі ж яно ўзыйдзе? Эх! Каб хаця раса вачэй не выела.

**Г. Мароз**



# мой апошні пленум

(Працяг са стар. 1)

разовыя заўвагі сяброў ГП адносна парушэння рэгламенту пасяджэння і ўвогуле здаровага сэнсу (не закончыўшы аднае справы, пачынаем другую), А. Баршчэўскі не зрэагаваў. Не зрэагаваў і У. Юзвюк на патрабаванні прадставіць канкрэтныя закіды ў адрас В. Стахвюка і А. Іваноўскага, каб усім стала яснай ступень іхняй віны за бэгэкатоўскае дэгенерацтва. Маўчаў пяць гадзін, а людзі ўвесь час гаварылі, гаварылі... І гаварылі... Ажно да знямогі і адурэння, бо абеду на пасяджэнні ніхто не прадбачыў (чаго не скажаш аб так званай мастацкай частцы, у якой меліся быць спевы, каб павесяліцца душою). Спевакі пайшлі дахаты на абед, а сябры ГП далей практыкаваліся ў мастацтве дыскусіі. І ў душах рабілася штораз больш змрочна. І пагана.

Гэта ёсць тыповы бальшавіцкі прыём — калі хочаш адвесці ўвагу ад істотнага, кінь людзям нейкую апетытную костку, няхай грызуцца за яе. Прыём гэты адшліфоўваўся гадоў семдзесят сама менш (у БГКТ — гадоў 35, што таксама ёсць лікам салідным), і старшыня А. Баршчэўскі выдатна ім карыстаўся. А кідаў ён не костку, а двух казлоў адпушчэння — Стахвюка і Іваноўскага. Наце! І людзі ўзялі. Пра гэта я і сказаў падчас дыскусіі, заклікаючы апамятацца, пакуль яшчэ быў кворум сяброў і можна было прыняць хоць адно разумнае рашэнне пасля паўтарагадовага прэзідыяльнага валюнтарызму. Як вы самі ўжо здагадваецеся, нічога не атрымалася, і людзі дыскутавалі далей. Кворум, дарэчы, утрымаўся да канца (пасяджэнне спынілася на дзевятай гадзіне!), але ўсе настолькі стаміліся і выбіліся з глузду, што магчыма было абвергнуць не толькі любую рэпліку, але й закон Архімеда. І прагаласаваць за што хочаш. Ці трэба здзіўляцца, што бальшавікі ўсё яшчэ кіруюць Беларуссю і маюцца ўсё лепш і лепш?

Больш-менш каля паловы выступленняў у дыскусіі мела характар агульнай „беларускай лірыкі“ — плач і галашэнне над развалінамі — якая непасрэдна „справы“ Стахвюка ды Іваноўскага не закранала. Другая палова — гэта своеасаблівыя здогады, што такое натварыў Стахвюк, што ажно трэба яго вываліць (пра Іваноўскага ніякай сур'ёзнай гутаркі не было, калі дапусцім, што дыскусія мела нейкія прыкметы сур'ёзнасці). Калі ўжо сябры ГП спаласкалі сабе мазгі да адпаведнай ступені (шмат хто ўжо быў пайшоў дахаты), У. Юзвюк адкрыў віну В. Стахвюка. Спадзеючыся на тое, што поўнасцю яна будзе прадстаўлена і ў прэсе (у форме адмысловага рапарту Рэвізійнай камісіі), я прыгадаю тры закіды ў адрас сакратара ГП. 1. У выбарчай кампаніі летась (выбары ў органы самакіравання) В. Стахвюк карыстаўся бэгэкатоўскай машынай, што спрычыніла Таварыству значныя матэрыяльныя страты. 2. Карыстаючыся пратэкцыяй Таварыства, В. Стахвюк атрымаў тэлефон. 3. Заангажаванасць В. Стахвюка ў дзейнасць БДА адмоўна ўплывае на выконванне яго абавязкаў у БГКТ: ён нават рапарту аб гадавой дзейнасці БГКТ не склаў.

В. Стахвюк адказваў:

1. У леташняй выбарчай кампаніі быў утвораны Беларускі выбарчы камітэт (БГКТ, БДА, БАС, іншыя беларускія асяроддзі). Выбарчая кампанія звязаная, як вядома (ці вядома гэта У. Юзвюку або А. Баршчэўскаму?), з пэўнымі фінансавымі накладамі. Удзел, для прыкладу, БДА ў выбарчай кампаніі замкнуўся сумай 3,5 мільёна злотых. БГКТ аніякага фінансавага ўдзелу не ўнесла, а зараз, публічна, выстаўляе ўсяму беларускаму руху рахунак за панесеныя ў выбарах страты (кошт бензіну і пераездаў). (Прашу шаноўных чытачоў крышку задумацца над гэтым закідам: ці ж не выглядае на тое, што ў ацэнцы БГКТ змаганне беларусаў за мандаты радных на Беласточчыне — гэта справа, якая БГКТ не датычыць? Болей таго, ці тут не пахне нечым крымінальным? Я не пацвельваю, бо ж закід гэты быў учынены на поўным сур'ёзе, а тое, што не абвяргнуў яго ні сам старшыня Баршчэўскі, ні тыя члены Прэзідыума, што былі выбраны раднымі ад Беларускіх выбарчых камітэтаў, толькі пацвярджае маю панурую ўпэўненасць у вышэй сказаным).

2. Тэлефон у маёй кватэры — гэта не ласка БГКТ ці даброта цывілізацыі, а неабходнасць эфектыўнай дзейнасці Таварыства, адказваў В. Стахвюк. Ці можна ўявіць сабе дзейнасць, калі пасля 15-ай гадзіны лучнасць БГКТ з вонкавым светам абрываецца? Ці можна ўвогуле думаць аб арганізаванні нейкіх мерапрыемстваў супольна з суродзічамі з Беларусі, ведаючы, што ў іх да апошняй хвіліны амаль нічога невядома, і звязвацца трэба ў любую пару, а любой гадзіне, каб уладжваць справы? (Дадам ад сябе: ці магчыма было б запанаваць над дзікім хаосам, які спрычынілі нам нашы суродзічы ў сувязі з акцыяй „Дзеці Чарнобыля“, каб не пастаяннае дзяжурства пры тэлефоне В. Стахвюка і ягонай сям'і? На практыцы, В. Стахвюк перанёс бюро ГП БГКТ у сваю прыватную кватэру (ад гадзіны 16 да 24), не патрабуючы за гэта ніякай фінансавай кампенсацыі. Пытанне тут такое: у якіх гадзінах павінна працаваць ГП БГКТ, а не — якую выгаду мае В. Стахвюк ад тэлефона?).

3. Рапарт аб гадавой дзейнасці БГКТ быў складзены і нават апублікаваны ў „Ніве“ (ад 2.12.1990 г.). (Калі думаеце, што гэтае абвяржэнне збянтэжыла У. Юзвюка і ён прасіў прабачэння ў В. Стахвюка, то вы, папершае, не ведаеце У. Юзвюка, падругое, не ведаеце яшчэ, у якую гульню гулялі на пленарным пасяджэнні ГП БГКТ).

Самы паражальны гол у вароты В. Стахвюку забіла спадарыня Валянціна Ласкевіч (член Прэзідыума), уголас усумніўшыся, ці абвінавачаны ўвогуле з'яўляецца членам БГКТ (?!) Гэтае пытанне так і засталося без вырашэння, у сэнсе „бэгэкатоўскай метадалогіі вырашэнняў“ (над ім не галасавалі). Вяршыня непавагі да сябе была, усё-такі, здабытая. Паўтара года назад члены ГП БГКТ амаль аднадушна прынялі В. Стахвюка ў свой гурт, ён жа, як сакратар, быў з тае пары і членам Прэзідыума ГП. Справа тут у чым? Калі падводзяць усе іншыя сродкі прыкончыць чалавека, у ход пускаюцца самыя прымітыўныя і гадкія: дзе ваша, Стахвюк, дэкларацыя аб уступленні ў БГКТ? Бо я яе не знайшла. (Ці думаеце, што знойдзе?) Каб закончыць гэты матыў: некаторыя сябры ГП усё ж такі абурыліся.

# Міфы

Апошнія гады, бадай на моднай хвалі ліквідацыі белых плямаў у нашай гісторыі, многа гаворыцца і пішацца пра унію і уніятаў. І, здавалася б, вельмі добра, што і гаворыцца і пішацца аб ёй. Прыглянуўшыся, аднак, бліжэй да гэтай тэмы, аказваецца не ўсё тут добра: замнога тэндэнцыйнасці і фальшу, неаб'ектыўнасці, адным словам. Ацэньваецца брэсцкая унія, як правіла, па прынцыпу: надта хваляць увядзенне яе, злосна крытыкуючы ліквідацыю, або наадварот, хваляць ліквідацыю, крытыкуючы ўвядзенне.

Такі падыход да уніі, па-мойму, моцна памылковы і крыўдны, бо бароніць рацыю толькі той нацыі, якая навязвала унію, значыць польскай, або той, якая ліквідавала яе, значыць рускай. Зусім не беручы пад увагу рацыю народаў, якіх непасрэдна датычыла яна — гэта значыць беларускага і ўкраінскага. А гэта ж яны і толькі яны на ўласнай скуры адчулі, адчуваюць і, здаецца, яшчэ доўга адчуваць будуць „дабрадзействы“ перахрышчэння.

Католікі, напрыклад, каб і хацелі стаць уніятамі, не маглі, не мелі на гэта права. Катэгарычна забараняў ім той жа самы польскі ўрад і каталіцкае духавенства, якія пад духоўным кіраўніцтвам Ватыкана з такой ахвярнасцю навязвалі новую, прыдуманую імі, рэлігію беларусам і ўкраінцам. За адступніцтва ад каталіцызму, напрыклад, пагражала ў Рэчы Паспалітай кара смерці (Сойм 1668 г.).

Чаму ж так? І што гэта за права такое і мараль такая (у, падобна адной з самых дэмакратычных і талерантных краін Еўропы), што здрада бацькоўскай веры адных лічыцца і добрай, і маральнай, і святой справай і да яе пхаюць сілком, а такі ж самы ўчынак другіх лічыцца злачынствам і вялікім грэхам, за які належыцца найвышэйшая кара?!

Калі ж так, дык гэта ўжо не рэлігія, а палітыка. А палітыка, як вядома, нідзе, ніколі і нічога супольнага са святасцю не мела.

Таму лічу, што толькі ацэнка беларусамі і ўкраінцамі брэсцкай уніі (як увядзення, так і ліквідацыі яе) можа быць найбольш верагоднай і аўтэнтычнай. Да такой ацэнкі, зрэшты, маюць яны не толькі найбольшае маральнае права, але і абавязак. Ужо час, каб беларусы і ўкраінцы пра свае справы гаварылі самі. Увесь іншы лямант на гэтую тэму, які штораз мацней гучыць, неаўтэнтычны і як бы нядобрасумленны.

Я беларус, праваслаўны. А дакладней кажучы, таму дасюль і ўтрымаўся беларусам, што праваслаўны. Паходжу з Беласточчыны, дзе унія добра далася ў знакі нашым няшчасным продкам. Спачатку нашы продкі былі праваслаўнымі, як і ўсе беларусы і ўкраінцы, потым у большасці сваёй сталі уніятамі, каб яшчэ потым стаць католікамі або зноў праваслаўнымі. І ўсё гэта не па іх віне ці волі, а па волі нашага заходняга ці ўсходняга суседа. І менавіта гэты факт, што не мы, а суседзі нашы рашалі, якая рэлігія нам больш прыдатная, не можа не гневаць чалавека.

А цяпер хачу адклікнуцца на некаторыя пытанні, звязаныя з уніяй і паспрачацца з некаторымі міфамі, што нараслі вакол яе.

Безумоўна, найпершым і найбольш істотным з іх з'яўляецца пытанне, ці патрэбная была русінам Рэчы Паспалітай і палякам царкоўная унія?

Адказ на яго зусім няпросты. Магчыма, і патрэбная была. Наконт уніі задумваліся многія праваслаўныя русіны тады. І іх зразумець і можна, і трэба. Сам Канстанцін Астрожскі (пазнейшы непрымірымы вораг брэсцкай уніі) быў спачатку вялікім прыхільнікам ідэі заключэння уніі паміж праваслаўем і каталіцызмам, тым больш, што абедзве ж гэтыя рэлігіі выраслі з аднаго супольнага кораня.

Але не такой, якая груба парушала б асновы адной і поўнасцю падпарадкоўвала яе другой. А менавіта такой была брэсцкая унія 1596 г. Але і гэта яшчэ не ўсё. 1596 год быў толькі пачаткам змен. З часам у новай рэлігіі наступалі ўсё большыя змены, якія паслядоўна і катэгарычна адводзілі ад усходняга абраду ў бок заходняга. Штораз смялей таксама уніяты пачыналі карыстацца ў пісьме і службе польскай мовай. Дакументацыя, якая захавалася ў нашых цэрквах з гэтых часоў, вялася, аказваецца, не па-беларуску, а на калечанай польскай мове. Усё гэта няўхільна вяло да зліцця уніяцтва з каталіцызмам. Перашкодзілі поўнаму зліццю толькі палітычныя змены.

А чаму б, здаецца, не заключыць тады такую унію паміж рэлігіямі, якая задаволіла б абодва бакі, якая ліквідавала б глыбокі падзел між імі і давала ўсім грамадзянам роўныя правы?! Думаю, такая магчымасць была. Але да здзяйснення яе была патрэбная добрая воля і любоў да бліжняга, пра якую так прыгожа і навучае хрысціянская рэлігія абодвух бакоў. Як бы сцэментавала яна і дружбу паміж нашымі народамі, і ўзмацніла Рэч Паспалітую, і адабрала б козыры адносна беларусаў і ўкраінцаў і іх тэрыторый у расійскіх манархаў.

Тады б царыца Кацярына II не магла на ўвесь свет трубіць, што яна як апякунка праваслаўя не можа дапусціць, каб так крыўдзілі русінаў у Рэчы Паспалітай і тым самым змушана „Отторженное возвратих“ (як і было напісана на медалі, выдадзеным на памяць аб далучэнні беларускіх і ўкраінскіх земляў да Расіі).

І, трэба прызнаць, такая ўмелая расійская прапаганда знаходзіла водгук і ў русінаў, і ў іншых народаў, бо і аргументы моцныя былі: ой, нялёгка жылося дысідэнтам у тагачаснай Польшчы. І унія нічога тут не развязала: уніяты ніколі не былі зраўнаныя ў правах з католікамі. І ўсё гэта дзеля таго, каб не аплачвалася быць не толькі праваслаўным, але і уніятам.

Ну, і ўрэшце рэлігійны аспект справы: затрыумфавала б нарэшце хрысціянская ідэя адзінства ўсіх хрысціян. На жаль, так не сталася, хрысціянскія ідэі таксама не затрыумфавалі, бо аўтары уніі не пра гэта марылі. Думаецца, што некаторыя вялікія прыхільнікі яе і цяпер пра тое самае думаюць, а рэшта або праз няведанне справы, або праз нашую беларускую наіўнасць падтрымоўвае іх.

Задаўшы першае пытанне, трэба задаць і другое: ці патрэбна была ліквідацыя уніі? Адказ і на гэтае пытанне таксама не надта просты і залежыць ад пункту гледжання. Асабіста я супраць такой ліквідацыі, але толькі таму, што супраць ліквідацыі уніі быў наш народ. Вось што на гэтую тэму напісана ў „Гісторыі Беларусі“ прафесара У. Ігнатоўскага:

„... Праз нейкі час падняўся пратэст у Беластоцкай вобласці. 15 парафій адмовіліся ўводзіць праваслаўныя абрады ў сваіх цэрквах. Было напіса-

 

У той момант я ўжо не мог стрываць, і мяне, як кажуць, панесла. За тон майго выказвання я ўсіх прысутных на пасяджэнні горача перапрашаю, але не за яго змест і высновы. Тут у вялікім скарачэнні я перакажу іх сутнасць. БГКТ дакацілася да такога стану не па віне Стахвюка ці Іваноўскага, а па віне тых, якія ім кіруюць і даюць „устаноўкі" (старшыня Баршчэўскі, ятоны Прэзідыум). Старшыня Баршчэўскі, спрабуючы пазбегчы абвінавачання ў безадказнасці і некампетэнтнасці, гнеў ГП павярнуў на сакратара і свайго штатнага намесніка (якога, дарэчы, сам рэкамендаваў на гэту пасаду на апошнім З'ездзе). Калі прыгадаць сабе, што Прэзідыум фактычна ўжо не быў у змозе прыняць хоць адно разумнае рашэнне (нават запісаць яго не мог, не кажучы ўжо аб рэалізацыі), то трэба здзіўляцца, што цяжар канцэпцыйна-арганізацыйнай працы ў БГКТ узяў на сябе В. Стахвюк і ён быў сапраўдным рухавіком тае дзейнасці, што ўсё ж такі праводзілася, з горшымі ці лепшымі вынікамі. Хто не робіць памылак, той нічога не робіць. Замест таго, каб дапамагаць свайму сакратару і выпраўляць непазбежныя хібы ў дзейнасці, Прэзідыум, груба парушаючы статут БГКТ, адчакаў паўтара года і плюхнуў памыямі на свайго працаўніка. Прынцып у тым такі: калі конь у запрэжцы выдыхаўся, і ні словам, ні пугаю яго не падгоніш, то ўсім прапануецца... змяніць колы ў возе. Авось, паедзем... Я паставіў фармальную прапанову Галоўнаму праўленню зняць А. Баршчэўскага з функцыі старшыні, матывуючы гэта безадказнасцю і некампетэнтнасцю вышэй згаданага. Не вяртаючыся ў мінулае (якое заўсёды можна апраўдаць тым, што Міністэрства ўнутраных спраў або не дазваляла, або грошай не давала), я звярнуў увагу прысутных на некаторыя аспекты сучасных паводзін лідэра БГКТ (калі ўжо беззваротна ляснуў камунізм у Польшчы, а Міністэрства культуры не толькі што не ўмешваецца ва ўнутраную дзейнасць Таварыства, але й грошай падсыпала шчодрай рукою). У палітычным аспекце ў вобліку А. Баршчэўскага маем дачыненне з поўнай беспрынцыповасцю: увосень 1989 г. ён „напужаў" сваіх таварышаў з ПАРП ідэяй беларускай аўтаноміі на Беласточчыне, а напрадвесні 1991 г. прапануе БГКТ, як сааўтар так званай „Deklaracji programowej", падчыненне ўладам... ваяводскім і гмінным (не, гэта не памылка, вось як гучыць гэты кавалак у праекце „дэкларацыі", прапанаванай на разгляд ГП: Towarzystwo uznaje zwierzchność Sejmu, Senatu, a także pochodzących z demokratycznych wyborów władz wojewódzkich i gminnych i nie potrzebuje wyłączności w reprezentowaniu Białorusinów w Polsce). У сферы светапогляду адбыўся дзівосны (але як жа паўсюдны ў наш час) пераезд з пазіцый марксізму-ленінізму на пазіцыі этыкі хрысціянства ў праваслаўнай яго форме (Таварыства вуснамі свайго лідэра дэкларуе супрацоўніцтва з Царквою з мэтаю „захавання хрысціянскай этыкі" і... „натуральнага асяроддзя"). Хопіць. Калі справа ў арганізацыйнай кампетэнтнасці нашага старшыні, то я звярнуў увагу сяброў ГП на гаспадарчую дзейнасць БГКТ. Калісьці нават увесь пленум быў прысвечаны гэтаму пытанню. Зараз, калі ёсць фінансавыя сродкі абсталяваць друкарню, вырашэнне аб гэтым так і застаецца тайнаю Прэзідыума. Камп'ютэрнае абсталяванне дзеля набору тэкстаў закуплена (па-мойму, значна задарагое, „нам патрэбны быў матор, а мы купілі самалёт"), ніхто не мае канцэпцыі, што рабіць далей: камплектаваць поўную прадукцыйную лінію (грошай наўрад ці стане), ці пастарацца забяспечыць адпаведна кваліфікаванымі людзьмі тое, што ёсць? І вось у так кардынальнай справе на пленуме ніхто не хоча гаварыць (магчыма, што шмат хто і не ведаў пра гэтую праблему), а потым зноў будзе плач і галашэнне: нічога нельга зрабіць, бо няма грошай. А я паўтараю: адна прафесіянальна забяспечаная друкарня магла б утрымліваць увесь матэрыяльны быт Таварыства. А так, гаспадарчая дзейнасць БГКТ базуецца на продажы абношанай вопраткі (бэгэкатоўскае памяшканне наймае нейкая фірма). Ці ж не здзек?

Я ўжо не буду прыводзіць чытачам рэплікі, якія падалі ў адказ на маю прапанову і выказванне. Усе без вынятку сталіся паставіць мяне пад маральным (!) прымусам: як вы можаце крытыкаваць такую асобу, а самі вы што для БГКТ зрабілі! Сам жа А. Баршчэўскі ўцямна аднёсся толькі да справы друкарні: за эвентуальны правал паліграфіі вінаваты В. Стахвюк.

ГП адмовілася галасаваць над вотум даверу В. Стахвюку, А. Іваноўскаму і А. Баршчэўскаму. ГП не прыняло рашэння правесці пазачарговы з'езд, прагаласавала таксама над чымсьці, чаго таксама не трэба рабіць, але я ўжо не памятаю, чаго.

А што рабіць? Хто ведае?

Ведае, зразумела, Віктар Стахвюк. І ён будзе рабіць, а на чарговае пасяджэнне нарыхтуем яму не гаршчок, а кадзь памыяў. Прабачце, сябры, нарыхтуеце без мяне. Я кажу ўсім да пабачэння. Развітваюся без пачуцця крыўды ці фрустрацыі. Калі нельга захаваць павагі да сваіх пабрацімаў, то чалавек стараецца захаваць павагу хоць да самога сябе. Гэта ёсць тыпова эгаістычныя паводзіны, але мне за іх не сорамна. Ганаровым выйсцем гэтага не назавеш, але пазбыцца пачуцця сораму можна.

Урэшце, адна справа асабістага характару. Спадар А. Баршчэўскі сказаў на пасяджэнні, што мая крытыка ягонай асобы грунтуецца перад усім на пачуцці нянавісці да яго. Зашмат гонару вам, спадар Баршчэўскі. Бо ці ж можна ненавідзець нешта жалюгоднае? Contradictio in adjecto, як кажуць.

**Ян Максімюк**

на паданне на імя цара, дзе вуніяцкія папы гэтых парафій прасілі рускі ўрад абараніць іх веру ад уціску і гвалту. На чале падаўшых прашэнне стаялі: Кляшчэльскі пратапоп А. Сасноўскі, Чыжоўскі поп Ф. Гаворскі і Беразоўскі поп А. Панькоўскі. У адказ на паданне пачаліся рэпрэсіі над папамі і парафіямі. Пад іх цяжкасцю парафіі адна за другой пачалі здавацца і выяўляць сваю пакорнасць начальству..."

Так, уніяцтва было ўжо верай нашых продкаў, таму яны так даражылі ёю і баранілі яе, як, зрэшты, яшчэ ранейшыя пакаленні баранілі праваслаўе перад уніяй. Але ці ж лічыліся каралі і цары з беларусамі! Адны ўводзілі, другія выводзілі. І ўсё ж такі ліквідацыя была другім злом, якое было вынікам першага зла. Так, па-мойму, трэба бачыць гэтыя справы і біць па конях і аглоблях, як у нас кажуць.

На жаль, сучасныя прауніцкія крытыкі бачаць зло толькі там, дзе яго хочуць бачыць, і лупяць толькі па аглоблях. Для іх пачатак і канец усяго зла звязаны толькі з ліквідацыяй і ліквідатарамі уніі. Калі кароль навязаў праваслаўным унію, дык гэта для іх і добра, і свята, калі ж цар ліквідаваў яе, дык гэта ўжо скандал страшэнны. Канешне, цары былі ворагамі беларускасці, але мець прэтэнзію да ворага нават за тое, што ён не быў дурнем і ў сваёй дзяржаве праводзіў палітыку карысную сабе, як бы не зусім лагічна.

Паводле іх рацыя толькі на іх баку, а ўсе іншыя памыляюцца. Памыляюцца іх сучасныя апаненты. Памыляліся нашы продкі, калі ў абароне бацькоўскай веры жыццё аддавалі. Памыляліся вучоныя-палемісты, якія, баронячы сваю веру, стварылі такую трагічную палемічную літаратуру. Пачытайце яе, а надоўга страціце супакой; сумленне і сорам за лёс свайго народа нават нявіннага чалавека пачынае мучыць...

І ці ж можам, ці маем права не ўшаноўваць іх за гэта, а лічыць, што не мелі рацыі, памыляліся, рабілі глупствы, бо рацыю мелі толькі іх рэлігійныя праціўнікі. Вельмі здзіўляюся таксама, калі чую, што ў тым жа Віцебску ставяць цяпер памятныя крыжы толькі тым, хто загінуў, пашыраючы унію. А чаму б заадно не паставіць і тым няшчаснікам, якія загінулі, баронячы бацькоўскую веру?! Ці ж яны мелі меншае права на гэта?! Вось дзе паўстала б трагічная кампазіцыя — лес крыжоў. І наглядны помнік нашага беларускага лёсу. Другая Галгофа.

А цяпер наконт міфаў. Назойліва прапагандуецца цяпер, быццам унія ў Беларусі паспрыяла развіццю беларускай нацыянальнай культуры. Міф гэта, бо калі было так добра, чаму ж было так кепска? Ці ж можна параўнаць стан беларускай культуры і беларускасці XV-XVI стагоддзяў, калі яшчэ ні віду, ні слыху пра унію не было, са станам іх у XVII-XVIII стагоддзях, калі унія на Беларусі пераможна запанавала і пышна расцвіла?!

Не, нельга. Ад XVII ст. беларуская культура і беларускасць выразна пайшлі ў заняпад, каб пад канец XVIII ст. праяўляцца амаль выключна ў фальклорнай форме.

XV і XVI стагоддзі наадварот — гэта залаты век беларускай культуры. І не што іншае, а праваслаўная рэлігія зрабіла яе такой, бо і пісьменства, і літаратура, і культура, і мараль на Беларусі мелі хрысціянскі пачатак і аснову.

І нічога тут дзіўнага. Нашае хрысціянства візантыйскага паходжання. Тагачасная ж Візантыя проста ззяла сваёй высокай культурай, як ніводная іншая краіна. Разам з хрысціянствам гэтая высокая культура шырокай плынню пацякла на Беларусь, хутка прымаючыся там і набіраючы нацыянальнай спецыфікі і каларыту, у чым якраз візантыйскі варыянт хрысціянства не толькі не перашкаджаў, а наадварот, спрыяў.

Калі ж было ці ёсць інакш, дык вінавата тут не рэлігія, а канкрэтныя людзі і змяняць трэба толькі іх.

**ВАСІЛЬ АНТАНЮК**

# ВУЧНІ НЕ ХОЧУЦЬ БЫЦЬ НЯДУЖЫМІ

Белавежскія дзеці шмат гадоў ціснуліся ў старых будынках пачатковай школы, памятаючых яшчэ міжваенны, а часткова і ранейшы перыяд. На разбудову школьных аб'ектаў не было ў мясцовых улад спачатку ахвоты, а потым фінансавых сродкаў. Толькі ў палове 80-ых гадоў справа кранулася з месца. На школьным пляцы, пры значнай дапамозе мясцовага насельніцтва, вырас новы, прасторны будынак. Дзеці пачалі ў ім вучыцца ў верасні 1989 г. Але няма ружы без калючак!

Будуючы новы аб'ект, улады гміны, бацькі і настаўнікі намагаліся пабудаваць адначасова гімнастычную залу. На жаль, грошай хапіла толькі на выкананне дакументацыі. Будаўнікі сышлі з пляца будовы і ўся справа пачала прытухаць. Але праблема асталася — 420 дзяцей не мае дзе праводзіць заняткі па гімнастыцы. Некалькі тыдняў назад пры Бацькоўскім камітэце ўтварыўся Грамадскі камітэт будовы гімнастычнай залы. Ён ужо працуе поўным ходам. Толькі што ў сённяшні, надта складаны і цяжкі час ні прадпрыемствы, ні паасобныя людзі не надта ахвотна сыплюць грашыма, бо іх занадта і не маюць. Дык ці на справе трэба ўжо паставіць крыжык? Не, у ніякім выпадку! Тым больш, што ёсць ужо нейкія магчымасці старту — ёсць жа дакументацыя, а і Управа гміны ў Белавежы перадала 600 млн. злотых на куплю будаўнічых матэрыялаў.

Тых, якія могуць фінансава падтрымаць пабудову залы, інфармуем, што ўплаты можна пералічваць на рахунак: **Komitet Rodzicielski przy Szkole Podstawowej w Białowieży, Bank Spółdzielczy w Białowieży, Nr 905510-534-132-5**, з прыпіскай: **na budowę sali gimnastycznej.**

Тэкст і фота **ПЯТРА БАЙКО**



*Новы будынак Пачатковай школы ў Белавежы.*



 

# НІНА АМЕЛЬЯНЮК
# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

**IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. МАРФАЛОГІЯ.**

**18. Выклічнік.**[1]

*Выклічнік* — гэта часціна мовы, якая выражае пачуцці і волевыяўленні чалавека, але не называе іх, не з'яўляецца членам сказа і не выконвае службовай ролі ў мове. „Такім чынам, выклічнікі — гэта спецыфічныя словы, якія не маюць граматычнай афармленасці, звязаны не з інтэлектуальнай дзейнасцю чалавека, а толькі з яго пачуццём і воляю і служаць для выражэння эмоцый і волевыяўлення асобы“[2]. Выклічнікі сінтаксічна не звязаны са сказам і інтанацыйна адасоблены ад яго. Гэта адасобленасць на пісьме абазначаецца знакамі прыпынку (коскай або клічнікам): *Ой, цётачка, мо яшчэ ўсё добра будзе!..* (П.М.), *Ух! аж задыхнуўся ад злосці Сцёпа і памкнуўся быў за Таняй.* (П.М.).

Паводле паходжання выклічнікі падзяляюцца на невытворныя і вытворныя.

*Невытворныя* выклічнікі не суадносяцца з іншымі часцінамі мовы. Яны складаюцца з аднаго гука або са спалучэння галоснага з зычным: *а!, о!, ой!, ох!, эх!, ух!, го!, ого!, но!, тпру!,* а часам паўтараюцца (поўнасцю або часткова): *ай-я-яй!, о-го-го!, ха-ха-ха!*

*Вытворныя* выклічнікі ўтварыліся з іншых часцін мовы, якія страцілі магчымасць называць розныя факты і з'явы і сёння служаць толькі для выражэння эмоцый і волі чалавека. У выклічнікі перайшлі некаторыя назоўнікі *(божа!, жах!),* дзеясловы *(будзе!, бывай!, дзякуй!),* прыслоўі *(годзе! досыць!),* займеннікі *(о-то-то!),* словазлучэнні *(дабранач!* <з *добрай ночы!).*

У беларускай мове выступаюць выклічнікі, запазычаныя з іншых моў: з англійскай *(алё!, стоп!),* з французскай *(марш!),* з італьянскай *(брава!),* з цюркскіх *(гайда!, каравул!).*

Паводле значэння выклічнікі падзяляюцца на:

1. *эмацыянальныя,* якія выражаюць розныя пачуцці чалавека і ацэнку з'яў рэчаіснасці: радасць, захапленне, задавальненне *(о!, ох!, эх!, ой!, ай-я-яй!, у!),* гора, смутак, асуджэнне, злосць, пагрозу *(ой!, ох!, эх! ух!, ну!, жах!),* роздум, меркаванне. здагадку *(гм!, о!, э!),* пацвярджэнне думкі *(далібог)* напр.: *Ах, як цудоўна навокал!* (Лыньк.), *Ах, беднае дзіця, ах, гаротніца!.* (П.М.), *Гм! Вось дзе ты!* (Лыньк.), *Выйграў, далібог, выйграў гэты Самусь!* (Ліс.);

2. *волевыяўленчыя (пабуджальныя),* якія выражаюць валявыя імкненні і намеры асобы: загад спыніць або пачаць дзеянне *(стоп!, тпру!, марш!, но!),* заклік, запрашэнне, зварот *(гэй!, эй!, э!, алё!),* падкліканне ці адгон жывёл, птушак *(кось-кось-кось!, цып-цып-цып!, кыш!, псік!),* напр. *Стоп! Пачакай, Пятрусь!* (К-с), *„Гэй. давай памагу,“ — крыкнуў я і кпліва зарагатаў.* (П.М.), *І раптам за акном мы пачулі голас бабкі Настусі: „А кыш, кыш, кыш... Няма на вас упаду“* (П.М.);

3. *моўнага этыкету,* якія служаць для выражэння прывітання, развітання, просьбы, падзякі, ветлівага звароту *(дзень добры!, здароў!, бывайце!, дабранач!, дзякуй!, калі ласка!),* напр.: *Дзень добры, юная вясна! Дзень добры вам лясы і гоні!* (К-с), *Да пабачэння, родныя палеткі. Маленства сцежкі мілыя, бывайце!* (Гіл.).

Ад выклічнікаў трэба адрозніваць *гукапераймальныя словы* — выгукі-сігналы жывёл, птушак, гукі і шумы нежывой прыроды *(гаў-гаў!, ква-ква!, ку-ку!, бум-бум!, шах-шах!)* напр.: *„Гу-у-у-у!“ — бухаецца бервяно ў Нёман.* (К-с).

---

[1] Літаратура: П. У. Сцяцко, Выклічнік, у: Сучасная беларуская літаратурная мова. Марфалогія пад рэд. Ф. М. Янкоўскага, Мінск 1980, с. 234-237: Беларуская мова пад рэд. А. М. Клачко, ч. 1, Мінск 1982, с. 325-327.

[2] П. У. Сцяцко, там жа, с. 234.




Дарагое Сэрцайка! Можа мне не выпадае ўмешвацца ў чужыя справы, але не магу вытрымаць.

Ёсць у мяне блізкая сяброўка — шчырая, сімпатычная, нікому кепскага не чыніць. Мы з ёю дык і пасварыцца ніколі не маглі. Між іншым, гэта яна заўсёды перапрашала, калі мы крыху перагаварыліся. Мая сяброўка замужняя, і ёсць у яе дарослы сын. Сёння сыну 17 гадоў, а з мужам жывуць яны, як кот з сабакам.

А калісьці было зусім інакш. Была гэта згодная сям'я і мая сяброўка была закаханая ў мужа. Ён, зрэшты, — у яе. Пасля былі нейкія разнагалоссі ў матэрыяльных справах. Мая сяброўка была чалавекам вельмі самаахвярным, не шкадавала для людзей ні сэрца, ні працы, любіла даваць падарункі іншым. А муж яе быў надта скупы. Ну, і ад гэтага ўсё пачалося. Мала-памалу, знайшоў ён сабе бабу. Вельмі лёгка было даказаць, што жонка больш часу прысвячае іншым, чым яму. І муж яе, хаця сяброўка мая ведала пра сувязь яго з іншай, адчуваў сябе апраўданым. Разводу, аднак, яны не бралі. Проста пачалі жыць у адной кватэры, ды толькі ў іншых пакоях.

Мая сяброўка вырашыла, што адзін пакой павінен быць чысты (у іх кватэра складаецца з трох пакояў), дык дзесяцігадовага тады сына ўзяла ў свой пакой. Яе пакойчык меў усяго шэсць метраў, і на другое ложка ў ім месца не было. Нанач побач са сваім тапчаном яна ставіла для сына раскладушку і так яны спалі. Калі сыну было 13 гадоў, я калісьці адважылася і сказала сяброўцы, што робіць глупства, бо такі вялікі хлопец павінен спаць у асобным пакоі. Мая сяброўка толькі рассмяялася. Сказала: „А як жа я буду спаць адна, без мужчыны?“. І сапраўды, сталася. Я часта бывала ў гэтым доме і, прыйшоўшы калісьці неспадзявана, заўважыла, што сын маёй сяброўкі, тулячыся да маці, ананізуецца. Раскладушка ж яго, як я ўжо казала, стаяла ўпрытык да тапчана, дык спалі яны фактычна разам.

Не ведаю, што думала мая сяброўка ў гэты час. Ці сапраўды, узяла на сваю душу такі грэх і дэмаралізавала сына, ці проста хацела дагадзіць яму ва ўсім, у чым толькі можна было. Хлопцу было ўжо 14 гадоў і, зразумела, што быў амаль ужо мужчынам. Я ізноў пагаварыла са сваёй сяброўкай, дакараючы яе ў тым, што яна эгаістка, што не думае пра будучыню сына. Яна абразілася. А праз два гады хлапец зрабіў 15-гадовай дзяўчыне дзіця. Маці перажывала страшна, але неяк іх пажаніла. Ад гэтага часу адчувае сябе зусім самотнай, а што горшае, нашы дарогі разышліся. Скажы, Сэрцайка, ці мела я рацыю і ці не павінна была мая сяброўка паслухаць мяне ў самым пачатку?

**Марыя**

Марыя! Напэўна твае інтэнцыі былі самыя шчырыя — гэта ж была твая найлепшая сяброўка. Шкада, што яна не ўзяла пад увагу тваіх першых перасцярог, а таксама пазнейшых рад. Лічу, што сталася яшчэ не найгорш, хаця 16-годак — які ж гэта бацька?! Хаця і пажаніла іх твая сяброўка, але ж я ўпэўнена, што нічога з гэтага не будзе. Проста замалады ён яшчэ, нявопытны, не мае сродкаў да жыцця, не мае ўласнай кватэры, а ўсе гэтыя чыннікі, узятыя разам, не спрыяюць шчасліваму сямейнаму жыццю.

Але магло б здарыцца і яшчэ горшае. Яе сын мог бы стаць збачэнцам. Ці ж не здараецца так, што сын жыве з роднай маці?! Вядомыя ж такія факты нават з гісторыі. А тут ужо ўсё ішло да гэтага. Дзякуй Богу, што сталася так, як сталася.

**Сэрцайка**




## ФАСОЛЯ З БАРАНІНАЙ

На 40 дэкаў фасолі трэба ўзяць 40 дэкаў бараніны (але можа быць і іншае мяса), 2 цыбуліны, пару гваздзікаў, 4 зубкі часнаку, 2 морквіны, 2 лыжкі алею, 1 лыжку масла, 1 шклянку булёну, лаўровы лісток, соль і перац.

Фасолю перабраць, памыць, намачыць нанач. Зварыць у той жа вадзе, у якой яна мокла. Пад канец пасаліць. Мяса памыць, нарэзаць, падсмажыць на алеі з маслам, дадаць нарэзаную цыбулю, спырснуць булёнам, тушыць пад пакрыўкай. У палавіне гатавання дадаць да мяса нарэзаную моркву, пасечаны часнок, гваздзіку, лаўровы лісток і рэшту булёну. Тушыць да таго часу, пакуль мяса не стане мяккае, тады перамяшаць з варанай фасоляй. Дадаць яшчэ солі і перцу. Падаваць з салатай з буракоў.

## ФАСОЛЯ З ТАМАТНЫМ СОУСАМ

На 30 дэкаў фасолі трэба ўзяць 4 яйкі, 3 лыжкі таматнага канцэнтрату, 5 дэкаў вэнджанай саланіны, 1 цыбуліну, 1 лыжку мукі, соль, цукар, перац, вострую папрыку, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі.

Фасолю перабраць, спаласнуць, намачыць з вечара, назаўтра зварыць у той самай вадзе, у якой яна мачылася. Саланіну нарэзаць костачкай, растапіць на патэльні, дадаць нарэзаную цыбулю, падсмажыць, перамяшаць з мукой, развесці адварам з фасолі, закіпяціць, дадаць таматны канцэнтрат, соль, цукар, перац і папрыку. Падрыхтаваным соусам заліць звараную фасолю. Падагрэць, дадаць нарэзаныя крутыя яйкі. Пералажыць страву ў салатніцу, пасыпаць пасечанай зялёнай пятрушкай.

## ЗАПЯКАНКА

На 30-40 дэкаў фасолі трэба ўзяць 2 шклянкі малака, 2 лыжкі мукі, 2 лыжкі масла, 2 жаўткі, 20 дэкаў вострага сцертага сыру, соль, 1 лыжачку прыправы „кары“, 3 лыжкі пасечанай зялёнай цыбулькі.

Фасолю перабраць, памыць, намачыць у халоднай кіпячонай вадзе. Праз некалькі гадзін у той жа вадзе зварыць яе, пасаліўшы ў канцы гатавання. Растапіць масла, дадаць прыправу „кары“, перамяшаць, падагрэць, дадаць прасеяную муку, мяшаючы, падаграваць яшчэ хвіліну. Паволі дадаваць малако, мяшаючы венічкам для збівання яек да кіпення. Тады зняць з агню, дадаць жаўткі, перамяшаць, дадаць 15 дэкаў сцертага сыру, соль. Фасолю адцадзіць, палажыць на вогнетрывалы посуд, заліць соусам. Пасыпаць рэштай сцертага сыру. Уставіць у гарачую духоўку і запячы. Выняўшы страву з духоўкі, пасыпаць яе зелянінай і адразу есці.

**Гаспадыня**




Дарагі Астроне, начыталася я артыкулаў пра Амерыку, што ў „Ніве“ друкуюцца (яны мне вельмі спадабаліся), мо і таму прысніўся мне гэты сон. Але ўсё ж хачу ведаць, што ён абазначае. А сніцца мне такое. Я ў Амерыцы. Стаю пры нейкім доме. Выгляду яго не памятаю, але вось добра запаматала шырокія дзверы, і аказваецца — гэта ліфт. А пры мне вялікая каробка. Яна на зямлі стаіць. Я яе нагой папхнула ў тыя дзверы і яна пасунулася, а я за ёю ўвайшла, бо нібыта дзесь наверх мне трэба было ехаць. Думаю, я ж мовы не ведаю, як я туды траплю, куды трэба. Але тут жа ў ліфце стаіць мужчына, ён націснуў гузік, ліфт падаўся ўгару, а ён да мяне загаварыў па-польску. Я вельмі ўцешылася. Заехалі мы высока, я выйшла з ліфта і ўжо нейк апынулася ў парку. Помню, іду алейкай, з двух бакоў зялёныя лісцястыя дрэвы і трава ўжо вялікая. Тут і канец сну.

**Вера**

Астроне! Сніцца мне над раніцай, што наша кадровая прыйшла аглядаць маю кватэру. Уваходзіць, але нікога няма ў хаце. Тады ўвайшла я і глянула ў куток, дзе вешаюць на вёсцы абразы. А там было так шмат павуціння, чорна-шэрага, проста зляпілася яно ў нейкую масу. І мне стала так сорамна — як жа я магла дапусціць, каб былі такія бруды? І я пачала тое павуцінне зрываць, нечым змятаць, а пасля ўзяла рукою і сарвала яго проста як нейлонавую фолію. Пакой гэты не быў зусім падобны на пакой, у якім я жыву. Быў ён нейкі доўгі, а на падлозе не было ніякай мэблі, ні дывана. Вельмі баюся.

**Жэня**

Вера! Твой сон добры. Клопаты (ліфт ехаў уверх, ды каробка тая) шчасліва скончацца. Мо ты і начыталася пра Амерыку, але ж усё роўна ў сне была заграніцай. А гэта абазначае перамену на лепшае, тым больш, што ў канцы ты апынулася ў парку, поўным зялёных дрэў і высокай травы.

Жэня! Твой сон сведчыць аб тым, што ў цябе ёсць нейкія незычлівыя людзі (мо нават на рабоце, або там, дзе ты жывеш). Але ты з імі справішся, бо пачынала ж зрываць ужо тое павуцінне.

**Астрон**

Легенды нашай зямлі

## АДКУЛЬ НАСТУПАЕ ВАДА У СВІЦЯЗЬ

Даўно гэта было. Тое, што я вам раскажу, чула я ад свайго дзеда. Аднаго пана, якому належала гэта возера, зацікавіла, якая яго глыбіня. Часта выязджаў ён на сярэдзіну возера, прывязваў да шнура груз і апускаў у ваду, каб дастаць дно. Але дна ніяк ён не мог дастаць.

Пасля яго зацікавіла, адкуль наступае вада ў возера. І ён прыказаў сваім сялянам прарыць два каналы, каб спусціць ваду. Адзін пракапалі ў бок вёскі Балеўка, які спалучыў возера з ракой Нёўдай (якраз у тым месцы, дзе быў пабудаваны млын), а другі — у бок вёскі Парэчча, які быў пушчаны ў раку Молчадзь. Вада так пайшла па каналах і ў вёсцы Валеўка затапіла некаторыя хаты. Пасля гэтага пану прысніўся сон, што дно возера ён зможа толькі дастаць галавой, а калі будзе чапаць яго з месца, то яно затопіць на сем міляў кругом.

Пан спужаўся і загадаў засыпаць каналы. Сляды гэтых каналаў відаць і цяпер. Але цікавасць да таго, адкуль наступае вада і куды яна дзяваецца, не пакідала пана. Тады Незабытоўскі злавіў тры шчупакі, акальцаваў і пусціў у ваду. На кольцах было напісана, што, калі хто зловіць шчупака, каб пазваў пана на абед. Пана, вядома, цікавіла, дзе зловяць тыя рыбы. Аднаго шчупака злавілі ў Азяранах, каля Наваельні, а другога ў Калдычаўскім возеры пад Баранавічамі. Так пан даведаўся аб падземных ходах, што звязваюць возера Свіцязь з другімі азёрамі.

**(З кнігі „Легенды і паданні“)**




**Мая вёска — Храбалы.**
**Малюнак Паўла Коршака.**



## У БЕЛАВЕЖЫ ЦІКАВА

Яшчэ восенню мінулага года мы, вучні V, VII і VIII класаў школы ў Старакорніне, паехалі на экскурсію ў Белавежу. Там сустрэў нас праваднік Канстанцін Вісьнеўскі. Мы пайшлі ў палацовы парк, дзе затрымаліся каля помніка, які гаворыць аб паляванні караля Аўгуста Саса. Пан Канстанцін расказаў нам гісторыю палаца. Потым мы пабывалі ў запаведніку. Там мы бачылі старыя дрэвы, між іншым, дуб Ягайлы. У кароткі час пан Вісьнеўскі навучыў нас адрозніваць такія дрэвы, як ліпа, клён і ясень. Найбольш цямлівым вучнем быў Славік Сурэль з V класа.

Наведалі мы таксама месца, дзе былі забіты фашыстамі жыхары Белавежы і ваколіц.

З Белавежы мы падаліся ў Гайнаўку, дзе ў Музеі беларускай культуры мы агледзелі выстаўку з Беларусі.

Цяпер мы зноў збіраемся ў рэйд па Белавежскай пушчы і хочам, каб нашым праваднiком быў такі цікавы чалавек, як Косця Вісьнеўскі.

На здымку, які зрабіў наш настаўнік Уладзіслаў Завадскі, на фоне дуба стаім мы, наш праваднік і настаўнік беларускай мовы Васіль Сегень.

**Змітрок Бяспалы**

## Як воўк авечкаю прыкідваўся

Жыў у Сінім лесе воўк, які не зарэзаў ніводнай свойскай жывёліны. Аднаго разу і яму захацелася пакаштаваць авечага мяса. А як падкрасціся да авечак на полі, не ведаў. Дый пастуха пры авечках баяўся, бо той меў тоўсты кій. Агрэе кіем па спіне — усе косці паломіць.

Але не быў бы то воўк. Калі наважыцца што ўкрасці — украдзе.

Пабег воўк у вёску. Там у аднаго гаспадара сцягнуў авечую шкуру, што на плоце сушылася. Нацягнуў на сябе і стаў падобен на авечку. Выйшаў на ўзлесак і чакае. Як толькі авечкі наблізіліся, воўк скок і ўбіўся ў авечы гурт. Авечкі нават не спалохаліся. Ходзіць воўк між авечак ды самую тлустую выбірае.

А тым часам да авечага гурту падкраўся другі воўк, які безліч авечак зарэзаў.

Як на бяду, пастух сеў каля вялікага каменя і заснуў.

Выскачыў з лесу воўк-разбойнік. Авечкі разбегліся. А воўк у авечай скуры не ўцякае: свой свайго не будзе чапаць. Ён і забыўся, што на ім авечая шкура. Накінуўся воўк-разбойнік на ваўка ў авечай шкуры, схапіў за шыю і павалок у лес. Воўк у авечай шкуры толькі нагамі дрыгае, задыхаецца.

У лесе воўк у авечай шкуры ачомаўся, хуценька скінуў з сябе чужую шкуру і завыў ад болю. Ды так моцна, што і пастух прачнуўся.

Воўк-разбойнік убачыў, каго ён прывалок, махнуў хвастом і пабег сваёй дарогаю. А воўк з пракушанай шыяй сядзіць на задніх лапах ды вые. Пастух падбег, кіем па спіне як агрэе — аж косці ў ваўка затрашчалі. Падхапіўся ён і кінуўся наўцёкі.

Падабраў пастух авечую шкуру, разаслаў каля каменя, лёг адпачываць. На авечай шкуры добра ляжаць.

А воўк доўга хварэў — пакуль шыя загаілася і косці зрасліся.

Пасля гэтага ён зарок сабе даў: ніколі не чапаць свойскай жывёлы.

**Віктар Гардзей**

### КОЦІКІ НА ВЯРБЕ

Жураўліная труба
Праспявала весела.
Косы доўгія вярба
Над вадою звесіла.

Песні звонкай не ў журбе
Долы адгукнуліся.
Раннем ясным на вярбе
Коцікі прачнуліся.

Гнёзды гай стары сагрэў,
Сонейка ўсміхаецца.
У змакрэлым вецці дрэў
Птушкі звонка раяцца.

І звіняць, удаль бягуць
Ручайкі срабрыстыя.
На вярбе цвітуць, цвітуць
Коцікі пушыстыя.

Завірухі адгулі,
Сцюжы больш не сцюжацца.
Пчолы, мушкі, матылі
Над вярбою кружацца.

**Міхась Пазнякоў**

### КОСЦІК

Косцік сам зрабіў шпакоўню,
Залюбуешся — дамок.
Усхваліў яе садоўнік
І павесіць дапамог.

— Малайчына, — кажа, — Косцік,
Цераз два ці тры дзянькі
Завітаюць нашы госці —
Пеюны-вартаўнікі.

Будуць нішчыць усё лета
Ў садзе вусеняў яны,
І падорыць сад за гэта
Табе яблык сакаўны.

Вучнёўская творчасць

### МОЙ КОТ

Мой кот Мацюша —
Пан над катамі.
Яму пацукі і мышы —
Ёсць забаўкай самай.
Ловіць іх і ловіць
Цэлы дзень ды ноччу,
Хвастом памагае.
Паспіць толькі трошку.
А калі прыйдзе пара,
Да мяне бяжыць,
Міла замурлыкае,
Пахваліцца хоча:
„Колькі мышак я злавіў,
Колькі часу не паспаў,
Колькі поту выліў,
Пакуль абед прыгатаваў!“.
Тады малачка нап'ецца,
Піражком закусіць
І гэту казку мне раскажа
Мой Кот.

**Мажэна Залуская.**
VI клас, школа ў Малінніках

Пазнаёмімся

346514, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Хабарова 14/73. **Фетисовой Ларисе.** (12 гадоў, хоча перапісвацца з дзяўчынкай з Польшчы ці іншых гарадоў СССР).

☆

СССР, Тверская обл., г. Вышний Волочёк, ул. 9 января 45/46, кв. 121. **Клушинко Марина Владимировна.** (16 гадоў, хоча пазнаёміцца з хлопцам 16-17 гадоў).

☆

220068, БССР, г. Мінск, вул. Гая, д. 14 кв. 23. **Фаміна Ірына** (хоча перапісвацца з дзяўчынкай, якая ведае рускую мову).

